PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (2004) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 9 КАСТРЫЧНІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## Залаты юбілей

**„Каб вы былі годнымі названня беларуса, — віншаваў удзельнікаў IV З'езда выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім МІТРАПАЛІТ ВАРШАЎСКІ І ЎСЯЕ ПОЛЬШЧЫ ВАСІЛЬ, — каб нічым не апаганілі свайго імя, каб былі добрымі грамадзянамі бацькаўшчыны, якую Бог нам выдзеліў".**

* * *

У суботу, 24 верасня, ці то ад слаўнага юбілею, ці ад плеяды яшчэ больш слаўных асоб, якія ў той дзень сабраліся ў Бельску, над горадам праяснілася. Пасля тыднёвай слаты настаў цёплы сонечны дзень. Зраніцы каля сваёй школы прагульваліся абітурыенты, у розных гадах. І хаця выпускнікі апошніх гадоў амаль не сустракаліся, пані ў пастэльных сукенках і лёгкіх жакетах выглядалі па-школьнаму молада.

А дзевятай гадзіне ў Прачысценскай царкве пачалася багаслужба. Падчас яе **архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава**, у сваёй казані, прыраўнаў ліцэй Тарашкевіча да біблейскага вінаградніка, які даў багаты плён. Адначасова прыгадаў ролю праваслаўя ў захаванні спрадвечнай культуры на гэтай зямлі. „Не было б Царквы, — казаў ён, — не было б і вашага сённяшняга юбілею".

А ў дзесяць гадзін у магістраце сустракаліся палітыкі. Мясцовыя ўлады прымалі **намесніка прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча**. Пасля сустрэчы цэлай групай прайшлі яны пехатою, балазе управа горада метраў сто пяцьдзесят ад ліцэя, у будынак школы.

Калі скончылася багаслужба і вярнулася з могілак дэлегацыя, якая ўсклала кветкі на магілах памёршых настаўнікаў і вучняў, наступіў найбольш узвышаны момант урачыстасці — адкрыццё мемарыяльнай дошкі **Яраславу Кастыцэвічу**. „Заснавальніку беларускай агульнаадукацыйнай школы, — напісана там, — выхавацелю, настаўніку, сардэчнаму прыяцелю моладзі, шматгадоваму дырэктару беларускага ліцэя, вялікаму маральнаму аўтарытэту бельскага асяроддзя. Удзячная беларуская грамадскасць".

Фундатарамі дошкі былі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры і друку РБ. Выканаў яе менскі мастак Валяр'ян Янушкевіч.

Гонар адкрыць мемарыяльную дошку выпаў дачцэ Яраслава Кастыцэвіча **Святлане Сычэўскай, міністру культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатолю Бутэвічу і дырэктару кабінета ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі Польшчы Генрыку Данішэўскаму**. Высвяціў яе мітрапаліт Васіль. Колішняга свайго дырэктара ў прыгожым слове ўспомніў **айцец Рыгор Сасна**, а адна з вучаніц прачытала прысвечаны Кастыцэвічу верш Віктара Шведа (выпускнік 1946 года).



*Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васіль уручае дырэктару Зінаідзе Навіцкай прысвоены ліцэю Медаль Марыі Магдаліны.*

### НА АДКРЫЦЦЁ МЕМАРЫЯЛЬНАЙ ДОШКІ ПАМЯЦІ ЯРАСЛАВА КАСТЫЦЭВІЧА

Паважаны Яраслаў,
Светач нашага народа!
Ў гушчы беларускіх спраў
Ён знаходзіўся заўсёды.

Дырэктар і настаўнік наш,
І бацька юных пакаленняў,
Высакародны творчы шлях
Прайшоў Ён з гонарам, сумленнем.

Ён педагог і будаўнік,
Гмах школы гэта Яго помнік.
Ды неабсяжны поўны лік
Яго здзяйсненняў векапомных.

Галоўнае — Яго ідэй
Нам нельга забываць ніколі.
Ён, як яднання карыфей,
Павінен жыць у нашай школе.

Мемарыяльны гэты знак
Хай будзе сімвалам навекі.
Прад ім здымайма шапку так,
Як Яраслаў прад чалавекам.

**Віктар Швед**

* * *

Вядучым мерапрыемства спісак прысутных гасцей давялося чытаць вельмі доўга. А яшчэ прыйшлі дзесяткі віншавальных тэлеграмаў, з ліку якіх зачытана было прывітанне ад **архіепіскапа Лодзінскага і Познанскага Сымона**.

Пасля таго, як **дырэктар Зінаіда Навіцкая** прачытала гісторыю ліцэя (друкавалася яна ў „Ніве" н-р, н-р 34, 35, а да з'езда выйшла асобнай брашурай) слова бралі госці.

**Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васіль** звярнуўся да прысутных: „Хто мы такія, беларусы? Успомнім нашу слаўную гісторыю, Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну, Грунвальд. Калісьці аб'ядналіся з палякамі ў адной дзяржаве, з Кароны і Літвы, хаця не ўдалася спроба аб'яднаць душы праз царкоўную унію.

Але не толькі светлым было мінулае беларускага народа, які перажыў столькі бедаў, няшчасцяў, войнаў на сваёй зямлі. Здавалася, ці падымецца ён з кален. Мы сталі людзьмі зваццa, але яшчэ мусім ведаць, якімі хочам быць людзьмі". (Уладыка гаварыў на цудоўнай беларускай мове, якую — як семінарыст у даваеннай Вільні — вывучаў у самога Янкі Станкевіча. Знаёмасцю беларускай літаратуры наўрад ці параўналіся б з ім цяперашнія навучэнцы нашых беларускіх школ.)

Сінод Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўзнагародзіў Ліцэй Браніслава Тарашкевіча Медалём роўнаапостальнай Марыі Магдаліны, першай ступені. Гэта першы выпадак прысваення найвышэйшага царкоўнага адзначэння свецкай установе.

**Міністр асветы і навукі Рэспублікі Беларусь Васіль Стражаў** прачытаў віншавальны ліст ад прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі**, узнагародзіў ліцэй Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета РБ і падараваў каляровы тэлевізар („самая новая мадэль нашай прадукцыі, павінен працаваць").

**Бурмістр Бельска Андрэй Сцепанюк** — два тыдні раней яшчэ настаўнік ліцэя і сакратар арганізацыйнага камітэта з'езда — не меў падарунка. „Я ўсяго тыдзень працую ў магістраце, — перапрашаў ён, — і не паспеў падрыхтаваць". Але, затое, улада ў горадзе загаварыла па-беларуску.

Прамоўцаў-віншавальнікаў было шмат. Успомню хаця б былога міністра

*Працяг на стар. 3*



*Высокія госці ў кабінеце дырэктара — былы міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка і віцэ-прэм'ер Польшчы Уладзімеж Цімашэвіч.*

## Між Украінай, Літвою і Расіяй

Польшча рэалізуе свае замежныя палітычныя інтарэсы шматпланава, таксама ўплываючы на думку тамашніх грамадскіх, культурных, навуковых элітаў. Канцэнтруецца на ўсходнім напрамку, што цалкам змяшчаецца ў яе традыцыях, як і ў магчымасцях дабіцца переваґі (на захадзе і поўдні няма такіх шанцаў). Апошнім часам у паласе Усходняй Сцяны інтэнсіфікавана сустрэчы міжнароднага характару, прысвечаныя пытанням міжнацыянальнага і міждзяржаўнага памежжа. Іх галоўная мэта — палепшыць імідж польскай палітыкі ў блізкім замежжы, як і ў нейкім сэнсе ініцыяваць еўрапеізацыю тых закуццяў цераз польскае пасрэдніцтва. Справа няблага ўдаецца не толькі дзякуючы ўласнаму вышэйшаму інтэлектуальнаму патэнцыялу, але і значным матэрыяльным сродкам, у іх ліку і замежным часткова, найперш нямецкім.

Відавочную актыўнасць выяўляе ў сувязі з тым фонд „Памежжа", абсталяваны ў Сэйнах і зарыентаваны на канструяванне працэсу польска-літоўскага паразумення, без якога немагчыма прасунуцца са сваімі ўплывамі далей, у колішнія польскія Інфлянты, у Латвію і Эстонію. Сітуацыя на гэтым участку дзейнасці замежнай палітыкі Варшавы надзвычай складаная: літоўцы адварочваюцца спіною да Польшчы, заглядзеўшыся ў Скандынавію і Нямеччыну, маючы несціханыя пертурбацыі з непрыхільна настроенымі да іх значнымі энклавамі т.зв. касцельных палякаў на Віленшчыне. Пашыраны сепаратызм у гэтай нацыянальнай мяншыні істотным чынам перашкаджае Вільні ў даверы Варшаве. А спробы Бельведэра паслужыцца польскімі літоўцамі, нават прызнаючы ім нешта кшталтам культурнае аўтаноміі на тэрыторыі заселеных імі пару гмінаў, сустракаюцца з катэгарычным супраціvам тутэйшага, сшавінізаванага, польскага насельніцтва. І самі мясцовыя літоўцы не лыкам шытыя, бачаць у гэтым, на выгляд сімпатычным жэсце, далёкі прыцэл на аналагічную аўтанамізацыю паланізаванай Віленшчыны, што дало б Польшчы палітычную карысць непараўнана большую (палякаў жа ў Літве пад дзесяць працэнтаў усяго народу, цэлыя паветы іх там; зусім не тое, што смешныя паўтары гміны літоўцаў на ўсход ад Сувалкаў).

Падобныя складанасці і на шляху з Польшчы ва Украіну, нягледзячы на гэтаксама каталіцкі (уніяцкі) Львоў і пяцімільённую Галіччыну, у цэркаўках якое прызнаецца вярхоўнасць не маскоўскага патрыярха, а рымскага папы. Нацыяналізм па абодвух баках робіць, аднак, беспрадметнай канфесійную туюсамасць. Найяскравы прыклад з уніятамі ў Польшчы, якіх прымас Глемп найахвотней пазаганяў бы ў касцёлы, калі б не супрацівіўся таму сам Ян Павел II, у якога глабальнае бачанне ролі каталіцызму (у жніўні ўтворана амбасада Ватыкана ў Мінску, элімінуючы такім чынам нясцерпна-нацыяна-

*Працяг на стар. 4*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W Polsce, „kraju bez stosów" chełpiącym się „wielowiekową tradycją tolerancji", pod koniec drugiego tysiąclecia, w piątym roku „europeizacji" ponad połowa obywateli uznaje słuszność hasła „Polska dla Polaków", a jedna trzecia twierdzi, że wpływ Żydów na sprawy kraju jest zbyt duży. Dwie trzecie uważa, że kandydat na posła powinien mieć przodków wyłącznie narodowości polskiej, zaś tylko 40 proc. akceptuje przedstawicieli mniejszości w Parlamencie.*

*Nastąpił wyraźny podział społeczeństwa na „lepszych" i „gorszych". Lepsi to oczywiście ci, którzy chodzą do kościoła, a ludzie drugiej kategorii to innowiercy, ateiści, homoseksualiści, chorzy na AIDS i wszelka inna „swołocz". Ta „swołocz" to kilka milionów obywateli RP.*

*(Wprost, nr 38)*

* * *

*Pili denaturat i oglądali w telewizji dokument o sowieckiej agresji na Polskę. Wtedy mieszkaniec Lipska nad Biebrzą zobaczył zbliżające się radzieckie czołgi. Armia Czerwona atakuje! — z krzykiem wybiegł na balkon. W obawie, że dobytek wpadnie w ręce bolszewików, podpalił mieszkanie. Ku przerażeniu sąsiadów z siekierą w ręku toczył samotny bój z przeważającymi siłami wroga. Straż pożarna i policja nie interweniowały. Spółdzielnia Mieszkaniowa w Lipsku zwróciła się do augustowskiej prokuratury o ściganie podpalacza. Ten nie poczuwa się do winy. Twierdzi, że bronił się przed bolszewickim najazdem.*

*(Gazeta Współczesna, nr 181)*

Змаганне жыхара Ліпска з бальшавікамі было не менш драматычнае, чым не аднаго батальёна ў 1939 годзе.

* * *

*Obecna koalicja wykazuje zadziwiającą sprawność w manipulowaniu zarówno społeczeństwem jak i ustawami, w wyniku czego za półtora roku możemy obudzić się w państwie totalitarnym.*

*(Rzeczpospolita, nr 209)*

Цяпер кожны ўраднік мае права вырашаць, што такое дзяржаўная тайна. Можа быць, напрыклад, што немагчымым будзе пісаць пра скарумпаванага паліцыянта, пракурора ці п'янага пасла. Усё будзе „дзяржаўнай тайнай". Такім чынам скончыцца „аплявуха".

* * *

*Наменклатура на Беларусі ўзмацніла свае пазіцыі, — заявіў лідэр БНФ З. Пазьняк. Толькі замест адной партакратычнай вярхушкі зараз прыйшла другая, якая збіраецца праводзіць антыдзяржаўную, антыбеларускую палітыку, накіраваную на падрыў нашай незалежнасці.*

*(Голас Радзімы, н-р 39)*

Непатрэбная паніка, спадар Пазьняк! Нягледзячы на тое, што б не рабілі ўсе дзядзькі, якія апынуліся пры ўладзе, г.зв. незалежнай Беларусі нішто не пагражае. І то дзякуючы Расеі. Ельцын проста не хоча мець такой губерні ў сваёй дзяржаве!

* * *

*Następca Kim Ir Sena, Drogi Przywódca, znany jest z nadmiernych apetytów erotycznych. Biuro Ochrony Drogiego Przywódcy rekrutowało dziewczyny do elitarnych Oddziałów Przyjemności. Bojowniczki tych oddziałów musiały mieć ponad 160 cm wzrostu, o urodzie nie wspominając. Organizowano dla nich specjalne kursy masażu...*

*(Polityka, nr 37)*

Ёсць яшчэ краіна, дзе дбаюць пра самаадчуванне дзяржаўнага кіраўніцтва. А ў г.зв. „дэмакратыях" — толькі крытыка, крытыка, крытыка і нічога больш.

* * *

*Rzymski katolicyzm, który z uporem twierdzi, że tylko jego doktryna jest prawdziwa, nieprawdopodobnie ogranicza wartość przeżycia religijnego. Jest to zresztą zupełnie niezgodne z tym, co Jezus mówił w Ewangelii. Kościół wbił nam w mentalność, że istnieje tylko jedna religia, a inne są podejrzanymi zabobonami, różnego rodzaju fałszerstwami. To nie bogowie walczą o nasze dusze, lecz mnisi różnych wyznań. Bo pojęcie Boga dostosowane jest do potrzeb, do cywilizacji, do tradycji, do umysłowości każdego kraju.*

*(Wprost, nr 37)*

* * *

*Religia jest fundamentalnym elementem cywilizacji — pod warunkiem, że istnieje jasny rozdział Kościoła od Państwa, który zezwala Państwu powstrzymać Kościół, gdy ten zamierza przekroczyć granicę świata duchowego i odgrywać rolę władzy doczesnej.*

*(Polityka, nr 38)*

Практыка штодзённага жыцця даказвае, што ёсць акурат наадварот — гэта духоўная ўлада вызначае межы дзейнасці дзяржаўнага апарату. Логіка тутэйшай гісторыі вымагала нават, каб хтосьці заняў месца колішніх цэнтральнага ці ваяводскіх камітэтаў.

* * *

*Zanotowaliśmy kolejny rekord w najbardziej polskiej z polskich dyscyplin. Przed rokiem wynosił on 6 promili alkoholu we krwi i obwołano go rekordem świata. Według lekarzy ubiegłoroczny rekordzista powinien umrzeć prawie dwukrotnie. Niedawno rekord pobito ponownie. 27-letni mężczyzna z 7,3 promila alkoholu we krwi trafił do Pomorskiej Akademii Medycznej i przeżył. Pijaństwo to jedna z tych konkurencji, w której bijemy rekordy świata a Guinness nie nadąża drukować nowych zaktualizowanych rekordów.*

*(Kurier Poranny, nr 195)*

Толькі салідная і пастаянная падрыхтоўка дае гарантыю, што нават выпіўшы вядро гарэлкі чалавек астанецца ў жывых. Затым — на здароўе!

* * *

*Stowarzyszenie grup Lambada skupiające homoseksualistów domaga się sformułowania w przyszłej konstytucji wyraźnego zapisu zabraniającego dyskryminacji obywateli ze względu na ich orientację seksualną. W tej sprawie wystosowało otwarty list do Lecha Wałęsy prosząc o bezpośrednie spotkanie z prezydentem.*

*(Kurier Poranny, nr 193)*

Думаем, што ў тэлебачанні будзе прамая трансляцыя з непасрэднай сустрэчы прэзідэнта з геямі.

* * *

*W latach 60 nastąpił burzliwy rozwój „przemysłu erotycznego" i nic nie wskazuje na to, by w najbliższych latach groziła mu dekoniunktura. Wartość obrotów na tym rynku w Polsce wynosi rocznie ok. 250 mln dolarów. Połowa tej sumy przypada na prostytucję. Do „zawodu" trafiają różne dziewczyny, ale największym wzięciem cieszą się studentki, potrafiające sprzedać nie tylko ciało, ale i erudycję. Zarabiają 10—20 mln miesięcznie. Ale gdy poczują szmal, to już raczej porzucą studia niż biznes. Na niektóre dziewczyny klienci czekają po sześć godzin. „Ona daje z siebie wszystko" — tłumaczą.*

*(Wprost, nr 37)*

## З мінулага тыдня

**Кансультацыйная сустрэча** міністраў сельскай гаспадаркі краін Сярэдняй і Усходняй Еўропы адбылася ў Варшаве і была яна прысвечана эканамічным і фінансавым пытанням пабудовы сельскагаспадарчага рынку. Прысутны на пасяджэннні дырэктар харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыі ФАО Жак Дзіуф сказаў, што асноўнымі бар'ерамі, з якімі прыходзіцца змагацца рэфармуючым свае гаспадаркі краінам, з'яўляюцца недахоп спецыялістаў і адсутнасць вырашэнняў на т.зв. пераходны перыяд. Заахвочваў ён міністраў садзейнічаць замацаванню міжнародных кантактаў дзеля пабудовы рыначнай гаспадаркі. Апрача міністраў з 17 еўрапейскіх краін (у тым ліку і з Беларусі) у сустрэчы прымалі ўдзел прадстаўнікі Сусветнага банка і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.

**Міністр замежных спраў Анджэй Аляхоўскі** на 49. Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прадставіў галоўныя накірункі польскай замежнай палітыкі і ролю Польшчы і іншых сярэдняй велічыні дзяржаў у сусветнай палітыцы пасля заканчэння „халоднай вайны". Падкрэсліваючы станоўчыя бакі заканчэння канфрантацыі паміж Усходам і Захадам, міністр Аляхоўскі звярнуў увагу на існуючыя розніцы: „Мы ўжо не падзелены, але і не аб'яднаныя. У сапраўднасці многія затоеныя дагэтуль праблемы выявіліся цяпер вельмі востра — этнічныя канфлікты, нацыяналізм, рэлігійная неталерантнасць. Халодную вайну можа яшчэ замяніць „халодны мір", або яшчэ горш — „гарачы хаос".

**Праект новай матуры** (атэстата сталасці) быў тэмай нарады педагогаў і працаўнікоў Міністэрства нацыянальнай адукацыі. На думку ўдзельнікаў нарады, матура — гэта дзяржаўны экзамен, а не прадоўжаная класная работа. Павінна яна стаць праверкай умельства карыстацца мовай, прымяняць матэматыку, прынцыпы логікі і разумець праблемы. Паводле ўдзельнікаў нарады, для падрыхтоўкі праекта матуры XXI стагоддзя трэба стварыць дзяржаўнае Агенцтва школьных экзаменаў. Прапанаваліся трохступеньчатыя матуры — малая, сярэдняя і вялікая.

**Віцэ-ваявода беластоцкі Анджэй Гаеўскі** на апошняй сесіі Самаўрадавага сейміка атрымаў рэкамендацыю дэлегатаў на пасаду ваяводы. За прызначэнне яго на пост шэфа ваяводскай адміністрацыі прагаласавала 36 дэлегатаў (на 58 прысутных), супраць — 16. Анджэй Гаеўскі — па прафесіі лекар, выпускнік беластоцкай Медыцынскай акадэміі, да 1 сакавіка г.г. працаваў дырэктарам клінічнай бальніцы ў Беластоку. Канчатковае рашэнне аб прызначэнні прыме Управа Рады Міністраў. Цяперашні ваявода **Станіслаў Пруціс** узначаліць беластоцкі філіял Галоўнага адміністрацыйнага суда, які пачне сваю дзейнасць з 1 лістапада г.г.

**За навуку на завочных аддзяленнях** у вышэйшых навучальных установах трэба плаціць. Каштуе яна ад 2,5 да 7 млн. злотых за семестр, а велічыня стаўкі залежыць ад папулярнасці навуковай дысцыпліны. Напрыклад, на аддзяленні рускай філалогіі студэнту трэба заплаціць толькі 2,5 млн. злотых, але калі прыйдзецца паўтараць год, то гэта каштаваць яго будзе 3,6 млн. зл.

**Універсітэт III узросту** пачаў сваю дзейнасць у Беластоку. Яго арганізатары прапануюць людзям у пенсіённым узросце заняткі па гісторыі, культуры, музыцы, эканоміі і пытаннях старасці.

**У Васількаве** са званіцы царквы св. Пятра зладзеі ўкралі 15-кілаграмовы звон вартасцю ў 20 млн. злотых. Злачынцаў-званароў шукае паліцыя.

**Халера набліжаецца да межаў Польшчы.** На Украіне пад канец верасня зарэгістравана каля 500 хворых на гэтую страшэнную хваробу. Нешматлікія выпадкі захворванняў зафіксаваны таксама ў Калінінградзе і ў Менску. Дзяржаўны ваяводскі санітарны інспектар у Беластоку прыгадаў усім працаўнікам гранічных пунктаў аб неабходнасці захоўваць гігіенічны рэжым і мыць рукі пасля праверкі дакументаў. На КПП у Кузніцы-Беластоцкай была праведзена кантроля прыбіральняў і ўмывальняў.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- Успаміны пра бежанства.
- Мікола Ваўранюк перапрашае бельскіх дзеячоў.
- Ада Чачуга пра багатых людзей у „Мерседэсе".
- Мікалай Панфілюк пра амерыканцаў з Дубіч-Царкоўных.


# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Бацька нацыянальнай валюты

Станіслава Багданкевіча з поўным правам можна назваць бацькам нацыянальнай валюты. Пасля таго, як 19 мая 1994 г. Нацыянальны банк надаў беларускаму рублю статус адзінага дзяржаўнага плацежнага сродка на тэрыторыі рэспублікі, Беларусь юрыдычна ўпершыню мае свае ўласныя грошы.

### Даларызацыя эканомікі

У рэспубліцы адбылася поўная даларызацыя эканомікі, — сцвердзіў старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. Для захавання грошай ад інфляцыі прадпрыемствы проста заключаюць фіктыўныя кантракты, пад якія закупляюць на біржы валютныя сродкі і кладуць іх на дэпазітныя рахункі. Толькі па гэтай прычыне попыт на долары ЗША перавышае прапанаванне, а Нацыянальны банк не мае валютных рэзерваў, каб стабілізаваць курс валют. Станіслаў Багданкевіч выказаў надзею, што гэтая праблема можа вырашыцца з дапамогай указа прэзідэнта РБ, у якім прадугледжваецца поўная канфіскацыя валютных сродкаў з рахункаў тых прадпрыемстваў, якія набылі валюту толькі ў якасці сродкаў накаплення.

### Не будзе права на працу

Права на працу аб'ектыўна немагчыма забяспечыць, — заявіў новы міністр працы Аляксандр Сасноў. На яго думку, у Канстытуцыі неабходны запіс не аб праве на працу, а аб тым, што дзяржава імкнецца да найбольш эфектыўнай і поўнай занятасці насельніцтва.

### Прапанова прафсаюзаў

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі зноў выйшла з прапановай да Кабінета міністраў аб павелічэнні мінімальнай заработнай платы. „Мы вымушаны пайсці на такія дзеянні нягледзячы на тое, што падтрымліваем курс новага кіраўніцтва на правядзенне рыначных рэфом, — заявілі лідэры ФПБ. — Аднак лічым, што ніякага зруху ў эканоміцы не адбудзецца, пакуль у людзей не з'явіцца стымул да працы. А сёння, на жаль, вартасць рабочай сілы знізілася да крытычнай адзнакі. Статыстыка паказвае, што сярэдняя зарплата зраўнялася з мінімальным спажывецкім бюджэтам. Гэта абазначае, што працоўны можа забяспечыць толькі свой пражытачны мінімум, а ўтрыманцаў пракарміць ужо не ў стане. Такая сітуацыя сур'ёзна пагражае здароўю насельніцтва. Нельга дапусціць, каб Беларусь стала краінай жабракоў".

### Спад вытворчасці

Яшчэ не так даўно на Трактарным заводзе ў Менску, на якім працуюць 32 тысячы чалавек, быў чатырохдзённы працоўны тыдзень. А ў палове верасня канвеер дзейнічаў усяго два дні ў тыдні. Прычына прагулаў — недахват камплектацыі. У параўнанні з мінулым годам колькасць трактароў, што сышлі з канвеера, зменшылася аж на 40%.

### Выратаванне ў збыце

Асноўная задача ўрада, на думку віцэ-прэм'ера Міхаіла Мясніковіча, заключаецца ў тым, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для гандлю з замежнымі краінамі. Галоўныя праблемы беларускай эканомікі не ў атрыманні крэдытаў, а ў збыце тавараў. Беларусь губляе традыцыйныя рынкі ў Расеі, на Украіне і ў Прыбалтыцы. У адносінах з Расеяй рэспубліцы трэба дабівацца статуса зоны свабоднага гандлю і знясення мытных бар'ераў.

### Юбілейная выстаўка

Споўнілася 135 гадоў з дня нараджэння Браніслава Эпімах-Шыпілы — дзеяча беларускай культуры, выдаўца, моваэнаўца, фальклярыста, кандыдата гісторыка-філасофскіх навук. Ушаноўваючы светлае імя выдатнага сына беларускай зямлі, Дзяржаўны літаратурны музей правёў вечарыну і наладзіў выстаўку пра жыццё і творчы шлях гэтага выдатнага рупліўца беларускага слова.

### Рэкардсмен з Гродна

Выступаючы на кубку свету ў грэчаскім горадзе Салонікі, штангіст з Гродна Аляксандр Курыловіч установіў сусветны рэкорд у рыўку 202,5 кг. А яго сума ў двухбор'і склала 450 кг, што з'яўляецца паўтарэннем сусветнага дасягнення расіяніна Андрэя Чаменркіна, паказанага ім на апошнім чэмпіянаце Еўропы.

### Граф Прушынскі лідэрам БХДС

Арганізацыйны характар насіла чарговая канферэнцыя Беларускага хрысціянска-дэмакратычнага саюза. На ёй прапанавана выбраць старшынёй БХДС графа Аляксандра Прушынскага, а на пасаду віцэ-старшыні рэкамендаваны былы следчы, а цяпер літаратар і бізнесмен Валеры Сарока. Гэтыя прапановы павінны быць зацверджаны з'ездам, які намечана правесці ў лютым будучага года.

### Віцебскія казакі

У Віцебску створана арганізацыя „Казацкае брацтва", на чале якой стаіць вайсковы атаман, маёр у адстаўцы, дэпутат Віцебскага гарадскога савета Вячаслаў Афанасьеў. Мэта гэтага воінскага ўтварэння — уз'яднанне трох славянскіх народаў. У сувязі з гэтым у заяве Віцебскай рады БНФ паказваецца, што такая казацкая арганізацыя ўяўляе сабою пагрозу нацыянальным інтарэсам Беларусі.



 

# Залаты юбілей

*Працяг са стар. 1*

замежных спраў Беларусі **Пятра Краўчанку** ці старшыню **ТП БГКТ Янку Сычэўскага**, які, хаця не выпускнік, моцна заангажаваўся ў працу аргкамітэта, прадстаўляючы яго інтарэсы ў Беларусі. Колькі іх аднак не было б і што б яны не гаварылі, і так у нашых людзей застануцца яны ў цяні **Уладзімежа Цімашэвіча**. Ужо пакуль скажа ён слова, вітае яго бура воплескаў. Так было і ў Бельску, дзе жадаў ён ліцэю „сто гадоў". „Я, ад імя польскага ўрада, хачу запэўніць, — гаварыў ён, — што мы перакананы аб праве кожнага чалавека на навуку на матчынай мове. Я хацеў бы верыць, што такая свядомасць у нашым грамадстве пашыраецца".

* * *

Афіцыйная частка ў гімнастычнай зале доўжылася блізу трох гадзін. Усе забыліся на тройку навучэнцаў, якія ўвесь час мусілі на зважай стаяць са сцягам школы.

Пасля афіцыйных прамоў з мастацкай праграмай выступілі вучні. А ў сем гадзін вечара пачалася „сяброўская сустрэча", як пісалася ў запрашэннях. Працягвалася яна ўсю ноч. Гралі вядомыя менскія „Сябры", якія нават спецыяльна з гэтай нагоды напісалі песню.

У нядзелю ўдзельнікі з'езда сустракаліся ў больш камерных умовах — у сваіх былых класах. А потым усе супольна паслухалі канцэрт у гарадскім парку.

* * *

Адзіным чалавекам, чый голас вылучыўся з агульнай, настроенай на святочны лад гармоніі, быў **Віктар Швед**. „На жаль, наш ліцэй толькі пад вонкавай шыльдай з'яўляецца беларускім, — гаварыў ён са смуткам, — але ўнутры ён цалкам польскі. Не так было тут за маіх часоў."

Быў ён таксама адзіным, хто на грудзях насіў інфармацыйную картачку — афармленую, дарэчы, на беларускай мове — з прозвішчам напісаным па-беларуску. Дамогся ён гэтага ў сімпатычных дзяўчат у рэгістрацыйным пункце. За трэцім разам прозвішча ўдалося ім напісаць беспамылкова.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**



*Без афіцыйнай павагі. Юры Буслові (выпускнік 1953 года) і Кастусь Майсеня — будаўнік ліцэя, якому давялося правесці шмат закулісных размоў, пакуль вырашыўся лёс лакалізацыі беларускай школы ў Бельску.*

# Пан Кавалевіч

Нямнога я пабыла ў Беластоку, наведала сваякоў — добра пабачыцца, паразмаўляць, як цяпер усім жывецца. Пры нагодзе сустрэчы з маёй дваюраднай сястрой Юляй я пазнаёмілася з пажылым ужо чалавекам, панам Уладзіславам Кавалевічам. Вельмі ён мяне зацікавіў. Пайшлі мы з сястрой і яе мужам да яго дадому. Расказаў пра сваё жыццё. Жыве спадар Кавалевіч адзін, жонка ягоная памерла дзевяць гадоў таму. У хаце прапісаны ўнук — сын прыёмнай дачкі Кавалевічаў. Унук гэты ніколі не заглядае да дзеда, хаця абяцаў апекавацца — ажаніўся ўжо і жыве ў жонкі. Былі добрыя, пакуль іх не прапісаў. Пэўна, цяпер чакаюць ягонай смерці, каб для іх хата засталася? Дачка Крыська таксама наведвае бацьку, але толькі тады, калі той атрымлівае пенсію. Прыйдзе тады і кажа: „Пастаў, тата, бутэльку, то табе ў хаце прыбяру, а як не паставіш, то не чакай, зарастай брудам!" Прыходзіць нанадпітку, кладзецца на ложак адпачыць, а бывае, што прыводзіць з сабою такіх жа як сама калег, што любяць выпіць. Нальюць і старому, потым грошы павыцягаюць, а апошнім часам то нават дакументы забралі. Бачу я — добры, пачцівы чалавек спадар Кавалевіч, заслужаны — ваяваў, раненні атрымаў на вайне, цяпер нядужы, патрабуе добрай апекі і пашаны, а не такога трактавання.

— Была вайна, перажыў, то і цяпер якасьці да смерці дажыву, — кажа спадар Уладзіслаў. — За Сталіна была суровая дысцыпліна. Білі мы ворага, але Бог мяне сцярог ад смерці. Дзякую Богу, што і цяпер жыву... Цяпер засталося мне толькі ўспамінаць, але каму тут будзеш расказваць! Няма ў мяне прыяцеля. Жыві і маўчы, калі хочаш жыць. Слова людзям не скажаш, усяляк бывае па людзях. Кажуць: маўчы, стары, калі ў цябе прапалі грошы і дакументы, нашто яны табе, нікуды ж не ходзіш, знойдуцца.

У хаце брудна так, што я ў жыцці не бачыла. Не было нават кавалка хлеба і солі, і ні залатоўкі, каб хоць гэта купіць.

— Што я тут магу зрабіць у гэтай справе, — кажа спадар Уладзіслаў, — стары, нядужы. Куды я пайду, каму скажу? Ніхто мяне не хоча. Уласныя дочкі, сыны і ўнукі родных бацькоў выракаюцца, аддаюць у дамы апекі.

Так, гэта праўда, мы ведаем усе пра такія справы. Ці то такі час настаў, што так трактуюць старых людзей? Кідаюцца імі як камянямі!

— Пра жыццё спадара Уладзіслава можна напісаць кніжку, і то цікавую, — кажа Юля. І я так думаю.

Расказвае пан Кавалевіч пра ўсё вельмі дакладна, усё добра памятае, і розум у яго працуе добра, нягледзячы на ўзрост. Прашу вас, тых, хто займаецца пісаннем: шукайце такіх старых людзей, не кідайце іх як каменне на брук, з кожным варта паразмаўляць і напісаць пра яго жыццё. **Стары чалавек — гэта камень ашліфаваны гадамі.** Ён варты гэтага, каб пра яго ведаць, каб з ім пазнаёміцца, каб ад яго нешта ўзяць. Кожны чалавек больш варты, чым напісанае пра яго.

А, можа, больш бы быў варты ў вачах улады і людзей такі салдат, як Уладзіслаў Кавалевіч, калі б у час вайны загінуў як герой? Ён нічога і цяпер не патрабуе: ні хвалы, ні славы. Цяпер яму толькі адпачываць! Але таго, што ён усё ж жыве, ніхто не заўважае. Улады ваенных ветэранаў адкінулі яго дакументы — ваяваў не разам з тымі, хто цяпер лічыцца пераможцам, Паніжылі яго вартасць як чалавека, як салдата.

— Не прасіўся я ісці на вайну, — кажа спадар Уладзіслаў, — і не пайду прасіць у іх ласкі. Не аднаго мяне пакрыўдзілі і пакрыўдзяць.

Хацеў бы зрабіць пан Кавалевіч рамонт у хаце, пажыць як чалавек.

— Так, бо цяпер жыву так, што не дай Божа! Хацеў бы мець і сябра, якому мог бы расказаць пра сваё жыццё, дзяліцца з ім пачуццямі...

Улада пляціць беспрацоўным, шкадуе іх. А што ж можа яна зрабіць для такіх, як пан Кавалеўскі? Думаю, што гэтая справа датычыць не толькі дзяржаўных устаноў, дзеля таго створаных, але і нас усіх.

**ЇДА**

# ПА ДАРОЗЕ

Каму часта даводзіцца ездзіць міжгароднімі аўтобусамі, напрыклад на працу, той добра ведае, якія найчасцей музычныя густы ў шафёраў. Увесь аўтобус мае нагоду пазнаёміцца з самымі новымі хітамі базарнай прадукцыі. Часам даводзіцца слухаць радыё. Па дарозе Бельск — Беласток, як правіла, гэта Polskie Radio Białystok. Калі едзеш у пару беларускай перадачы, то ўсе сямяціцка-белападляшскія шафёры мяняюць хвалі сваіх прыёмнікаў. Але ў Бельску бываюць і заядлыя нацыяналісты, якія прымусяць пасажыраў праслухаць „Пад знакам Пагоні" ад конскага тупату да апошніх развітальных слоў вядучага.

На такога шафёра трапіў я ў адну з апошніх пятніц. А паколькі дома ў мяне радыёпрыёмнік даўнавата ўжо прыпсаваўся, дык не без прыемнасці ўладкаваўся я на адно з першых сядзенняў, каб на працягу паўгадзіны ўзяць сваю долю асалоды ад роднага радыёвяшчання.

З самага пераду, побач шафёра вярцеўся нейкі дзядзька на добрым падпітку. „Зараз будзе дамагацца, каб выключылі радыё", — у галаве мільганула мне думка. І сапраўды, дзядзька прыпадняўся і, моцна ўчапераўшыся за парэнчу, нагнуўся да шафёра. Пытанне было самае нявіннае: адкуль ён мае такую касету. Дзядзька задаволіўся і адказам, што гэта самае звычайнае радыё. Пасядзеў мінут пяць і зноў звярнуўся да шафёра. Але на гэты раз меў самую нявінную просьбу, ці можа адкаркаваць пляшку піва. Шафёр не меў нічога супраць і той з любасцю пацягнуў здаровы глыток. І з не меншай слухаў рэдактара Ляшчынскага, які заказваў чарговую беларускую песню. Але, ці то дзядзька так заслухаўся, ці задрамаў, што піва яму разлілося. Ноздры пасажыраў паказытаў прыемны хмелевы пах, а з-пад першага сядзення пачала расплывацца калюжа.

Дзядзька не звяртаў на гэтую непрадбачаную акалічнасць ніякай увагі аж да самага канца перадачы. І толькі, калі ўжо пасля сёмай шафёр пачаў шукаць іншую станцыю, прыпадняўся зноў з месца.

— Nie masz pan więcej tego Białegostoku? — пытаўся, хістаючыся на мяккіх нагах. Ззаду штаноў-джынсаў цямнела піўная пляма.

— Bo wie pan, jak posłuchałem, to mi się od razu młodość przypomniała. Piętnaście lat mieszkam na Śląsku i nijak sie k... nie mogę dogadać z tymi hanysami, — выжаліўся і сеў на сваё мокрае месца. Хвіліну падумаў аб чымсьці і адкрыў другую бутэльку піва.

**ак**

# Будзе лепш ездзіць...

... па дарозе са Старога Ляўкова ў Лешукі ў Нараўчанскай гміне. Дагэтуль была тут гравійка, якую даводзілася часта рамантаваць — асабліва ў „мокрыя" поры года: вясною і восенню.

У палове верасня гэтага года беластоцкае прадпрыемства „Будмост" пачало класці тут асфальт на паўтаракіламетровым адрэзку гэтай даволі рухлівай артэрыі. Варта адзначыць, што па ёй ездзяць, між іншым, аўтобусы ПКС з Беластока ў Гайнаўку — сем разоў у суткі.

Прадбачваецца, што ў наступным годзе асфальт пакладуць на 4-кіламетровым адрэзку Ляўкова—Лешукі і тады ездзіць сюдою будзе люба. З задавальненнем успрынялі гэты факт жыхары тутэйшых вёсак: Ляўкова, Ахрымоў, Капітанщчыны, Міхнаўкі, Лешукоў, Кардону і Навінаў. Гэта таксама цешыць сялян з Сушчы, вёскі, якая на беразе ракі Нарвы, па якой прабягае мяжа паміж Міхалоўскай і Нараўчанскай гмінамі. Сушчаны жывуць на ўскраіне суседняй гміны і яны таксама хочуць мець асфальтавую дарогу, а ў крайнім выпадку хаця б такую вуліцу ў сваёй вёсцы.

**(яц)**

# Свята кліента

Такую форму рэкламы сваіх тавараў прыдумала бельскае прадпрыемства „Unibud". У чацвер, 15 верасня, сарганізавала яно фэст у сваіх крамах на тэрыторыі горада. Вытворцы прэзентавалі свае вырабы: радыёпрыёмнікі, тэлевізары, гаршкі, каструлі, фарбы, лакі, дываны, мэблю і шмат чаго іншага. З гукаўзмацняльнікаў расплывалася прыемная музыка, кожны мог пакаштаваць ці то фрыткі, ці нешта салодкае, папіць якогасьці напітку, а то і піва. Ля фрытак і салодкага тоўпілася школьная моладзь. Меншыя дзеткі выходзілі з крамы з вялікімі надзьмутымі шарамі. Той, хто ў гэты дзень купіў тавараў на больш як паўмільёна, мог разлічваць на выйгрыш у латарэі.

Цэлая рэкламная акцыя была добра прыдумана і ў цікавы спосаб праведзена. Ці дала яна даход фірме? — цяжка сказаць. Напэўна ўмацоўвае станоўчы вобраз „Unibudu" ў вачах кліентаў.

**ак**

# СУМЛЕННЕ

Калі чалавек не мае сумлення, падобны ён да жывёлы, а нават горш, бо жывёла не мае розуму. Несумленны чалавек толькі і думае, як прычыніць зло свайму бліжняму: пабіць, абакрасці, ці хаця б толькі абсмяяць. Да несумленнасці людзей прыводзіць у першую чаргу адстунасць веры ва Усявышняга, іх эгаістычнае пакланенне матэрыяльнаму багаццю. Цяпер амаль усе, хата ў хату, атрымоўваюць ці то пенсіі, ці грашовыя дапамогі. Я, як пісьманосец, маю штодзённа дачыненне з грашамі, а з імі па-рознаму бывае. Здараецца, што пераплачу камусьці. Пад канец дня часам не хапае мне пацьдзесят злотых, а то і цэлы мільён, якія я мушу папоўніць са сваёй кішэні. Рэдка калі той, каму я пераплаціў, сам вяртае грошы. Бываюць, аднак, людзі сумленныя, якія не хочуць чужых грошай і крыўды. Год таму, калі я плаціў грошы ў Тафілаўцах, у канцы дня не стала мне мільёна злотых. На другі дзень сумленная жыхарка гэтай вёскі Марыя Галёнка гэтыя грошы мне вярнула, за што я ёй вельмі ўдзячны. Яшчэ даўней іншы жыхар гэтай вёскі Уладзімір Жубэр таксама вярнуў мне пераплачаныя грошы. Вярнулі мне грошы яшчэ Васіль і Ніна Галёнкі, ды Мікалай і Таццяна Масальскія. І ў Дубічах-Царкоўных сваю сумленнасць і дабрату паказалі Фёдар Млодзян, Іван Кулік і Ян Петручук, якія таксама вярнулі мне грошы. Бываюць аднак і такія, якія пераплачаныя на іх карысць грошы затояць. Некаторыя гаварылі мне: „Каб ты мне пераплаціў чужыя грошы, я іх табе ніколі не вярнуў бы, бо гэта для мяне шчасце. Калі ты, паштальён, яшчэ не навучыўся добра лічыць грошай і мне пераплаціў — вінуй сам сябе, бо я ў тваю сумку не палез". І што на гэта скажаш? А лічыць грошы нават камп'ютэры памыляюцца, а што ўжо гаварыць пра чалавека. Пацяшае мяне старая, мудрая паговарка: „Не сумуй, калі нешта згубіў і не цешся, калі нешта знайшоў". Хачу яшчэ дадаць, што горкія п'яніцы і лайдакі таксама не маюць сумлення: абмінайце іх на вярсту.

**Мікалай Панфілюк**

# Між Украінай, Літвою і Расіяй

*Працяг са стар. 1*

лістычнае ўмяшанне прымасаўскага палаца ў рэлігійнае жыццё звыш мільёна беларускіх каталікоў). Украіна палякам — гэта перш-наперш Прычарнамор'е, адкуль працягвалі ў малазіяцкія рэгіёны, як і транзітнае фактарства ў дачыненнях з немцамі, што не ад сёння ласуюцца стэпнымі чарназёмамі і задняпроўскімі шахтамі.

Польская ўсходняя палітыка мае на ўвазе, вядома, Расію. Тут няма альтэрнатывы, расійскага гіганта не абысці бокам. Але, каб гаварыць з ім, не стоячы на каленях, трэба моцных пазіцыяў у суседніх Украіне і Беларусі, і ў дзяржавах Прыбалтыкі. Гэтае сцвярджэнне адназначна ілюструе польская настойлівасць на скіраванні новапланаваных трансеўрапейскіх аўтастрадаў на Вільню і тую ж Балтыю, хоць заходнееўрапейцы прапануюць мінскі напрамак, наўпрасты ў Маскву; другі шлях — Вроцлаў, Катавіцы, Пярэмышль, Львоў і далей, на багаты поўдзень Украіны, ад Кіева ўніз. Беларусь у гэтых калькуляцыях як быццам не лічыцца, яна і так нікуды не падзенецца ў задуманых абцугах?

Пільна прыглядаюся ў пошуках беларускага аспекту ў польскай палітыцы і не знаходжу яго ў ёй. У шэрагу каля дзесятка спомненых сустрэчаў, у якіх давялося мне прыняць удзел у якасці запрошанага госця, я ні разу не сутыкнуўся з кампетэнтным дакладам кагосьці на тэму: Польшча-Беларусь (ці наадварот). Беларуская праблематыка паяўляецца не глыбей, чымсьці фон у разглядзе літоўскай, украінскай, расійскай, а нядаўна і нямецка-расійскай. У верасні, на працягу амаль тыдня, праходзіў у Голдапе сімпозіум, фактычна адрасаваны Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі. Арганізатар быў не адзін, у першую чаргу ольштынская Культуровая супольнасць „Барусія" (сярэдневяковая лацінская назва Прусіі), як і вядомы фонд „Памежжа" з Сэйнаў, зямляцкія згуртаванні з Нямеччыны і магістрат Голдапа, зацікаўлены пабудовай вялікага, шматфункцыйнага, памежнага перахода на блізкай адсюль расійскай дзяржаўнай мяжы. Пры нагодзе непрадчуваная мною інфармацыя: на лініі звыш двухсот кіламетраў польска-расійскай мяжы функцыяные — жартачкі! — каля дзесяці пераходаў рознай ступені арганізаванасці. Адразу, вядома, палічыў я колькасць пераходаў на польска-беларускай мяжы, дзеля чаго хапіла мне пяці пальцаў рукі.

Чаму ніводзін з арганізатараў частых цяпер элітарных сустрэчаў, у якіх прымае ўдзел натоўп за сотню інтэлектуалаў, палітыкаў, дыпламатаў з палаcы ўсходу Еўропы, — ад Славеніі па Эстонію, з абавязковым удзелам немцаў, — не адчувае патрэбы аранжаваць беларускі момант у дыспутах, папярэдне заказаўшы сур'ёзны даклад і запрасіўшы прадстаўнічую групу мінскіх аўтарытэтаў? Вяртаючыся да голдапскага сімпозіума — зноў паўтарылася тэматычная трыяда польскай усходняй палітыкі (Расія, Украіна, Літва), з жыдоўска-хасідскім дадаткам у гэты раз, спевамі кантара з Лодзі. Прыходзіць на думку просты адказ: на беларускім шляху з Польшчы на ўсход не напорваюцца палітыкі на аніякую завалу: шырока, гладка, беспраблемна. Але, у гэтым адказе тоіцца некатрая здагадка іншага плана: даволі ім адпаведных адносінаў з Масквою, каб не абцяжарваць сябе яшчэ і захадамі на арэале мінскай суверэннасці?

Не думаю, каб я тут занадта памыляўся ў ігнараванні Варшаваю Мінска і ў будаванні ёю інфраструктуры палітычных інвестыцыяў, прэзентаваных як узаемна карысных, менавіта ў напрамках Львова, Вільні, Калінінграда (у трэцім выпадку падключаюцца і немцы, гэта ж іх былы Кёнігсберг). Разумею стратэгічны інтарэс нашай Польшчы: здаецца, гэта прыатлантычныя канцыляры ўрэшце растлумачылі ёй, што застаючыся маласільнай на ўсходзе не вельмі патрэбная яна і на захадзе. Слабы, наогул, нікому непатрэбен, як непатрэбен бедны сваяк багатаму.

**Сакрат Яновіч**

*P.S. Каторагасьці дня сустрэчы ў Голдапе даў канцэрт хорык украінскага ліцэя з Гурова-Ілавецкага, а малады дырэктар гэтай нацыянальнай школы меў потым свайго роду прэс-канферэнцыю, у час якой тыя рэпрэзентанты ўсходняй паловы Еўропы пачулі, што ўсе прадметы выкладаюцца на ўкраінскай мове, акрамя польскай мовы і гісторыі Польшчы, што не перашкаджае абітурыентам амаль стопрацэнтна здаваць экзамены ў польскія універсітэты і політэхнікі. А ўнашых ліцэях? — рытарычна я пытаюся ў самога сябе.*

**С.Я.**




A t l a s gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. 3. Wrocław 1993; Rec. **SIEGIEŃ Bazyli**, *Białostocczyzna* 1994, nr 1, s. 97-98.

**BARSZCZEUSKI Aleksandr:** Białoruska literatura emigracyjna. *Literatura na Świecie* 1993, nr 10, s. 244-249.

**BARSKI Aleś:** Chciałbym o tobie (w). — A niebo w Bondarach (w). — Schyliły się nad wodą (w). — Twarz twoja była słońcem (w). — Jestem tak blisko ziemi (w). — Pocci, wrastajcie w słowa (w). — I stworzył ciebie Bóg (w). — Rozchyl serce (w). — Ty — czyje serce (w). Tł. Marian Jurkowski. *Literatura na Świecie* 1993, nr 10, s. 258-262.

*D a r s k i  Józef*: Białoruś. Warszawa 1994; Rec. **TARKA Krzysztof**, *Nowe Książki* 1994, nr 4, s. 30, il.

**GRACZYK Maria:** Skansen. (Wybory prezydenckie). *Wprost* 1994, nr 26, s. 50, 55, il.

**HRYB Mieczysłau:** Miłość z rozsądku. (Współpraca z Rosją). Rozm. przepr. Maria Graczyk. *Wprost* 1994, nr 26, s. 48, 50, 55, il.

**JAGIEŁŁO Michał:** Białoruskie poszukiwania Białorusi. Cz. 3. *Przegląd Powszechny* 1994, nr 5, s. 224-234.

**KAWYL Michaś:** Nie ucieknę (w). Tł. Aleksandr Barszczeuski. *Literatura na Świecie* 1993, nr 10, s. 256.

**ŁATYSZONEK Oleg:** Białoruski ośrodek naukowy w Grodnie wobec niepodległego państwa polskiego. *Białostocczyzna* 1994, nr 1, s. 90-91.

**MIRONOWICZ Eugeniusz:** O stosunkach polsko-białoruskich po I wojnie światowej. *Białostocczyzna* 1994, nr 1, s. 61-67.

**MOŻEJKO Eugeniusz:** Białoruskie otwarcie. (Kontakty handlowe Polska—Białoruś). *Życie Gospodarcze* 1994, nr 25, s. 20-21.

**PACZOSKA Ewa:** Zobaczyć Grodno i... (Warunki Życia). *Res Publica Nowa* 1994, nr 4, s. 43-44.

**POTAJEW Gieorgij:** Społeczno-gospodarcze skutki radioaktywnego skażenia terytorium Białorusi. T 1. *Ekonomia i Środowisko* 1992, z. 2, s. 161-167, rys. Sum. Res.

**SAŁAWIEJ Aleś:** Gwiazdy (w). — W ciszy (w). Tł. Alaksandr Barszczeuski. *Literatura na Świecie* 1993, nr 10, s. 257.

**SIDOROWICZ Wadim, TUMANOW Igor:** Reproduction in otters in Belarus and north-western Russia. *Acta Theriologica* vol. 39:1994, nr 1, s. 59-66, tab.

**TOMCZONEK Zofia:** Ruch ludowy na terenie województwa poleskiego w latach 1920—1939. *Białostocczyzna* 1994, nr 1, s. 51-60, mapa.

Z a n i e w s k a  Teresa: A dusza jest na Wschodzie. Polsko-białoruskie związki z literaturą. Białystok 1993; Rec. **ŚAMBOR Aleksander**, *Literatura na Świecie* 1993, nr 12, s. 350-352.

**Р. С.**

# ЭКСПЕРЫМЕНТ ЖУКАВА

14 верасня г.г. у праграме „Панарама" беларускага тэлебачання ўпершыню прагучала інфармацыя пра здарэнне саракагадовай даўнасці на вайсковым палігоне каля Арэнбурга. Пасля гарбачоўскай „галоснасці" здавалася, што ў гісторыі Савецкага Саюза ўжо няма нічога, што магло б яшчэ каго-небудзь здзівіць. Аказваецца, што не ўсе злачынствы тае сістэмы былі высветлены і час ад часу з тайных архіваў выплывае чарговы вобраз нядаўняй рэчаіснасці.

Што затым здарылася 14 верасня 1954 г.? Герой Савецкага Саюза маршал Георгій Жукаў запланаваў незвычайныя вайсковыя манеўры з прымяненнем атамнай бомбы. Летам 1954 г. з гарнізонаў на тэрыторыі Беларусі было перавезеных на Тоцкі палігон каля Арэнбурга 45 тысяч салдат і афіцэраў. Мэтай вучэнняў было праверыць падгатоўку паасобных часцяў да дзеяння ў раёне, над якім толькі што наступіў выбух атамнай бомбы.

На манеўры былі запрошаны Мікіта Хрушчоў і міністры абароны з „братніх краін". Хрушчоў, Жукаў, генералы і запрошаныя міністры аглядалі змаганне армій „Усход" і „Захад" пры дапамозе камераў з-за муроў спецыяльнага будынка ў адлегласці 20 кіламетраў ад месца выбуху атамнай бомбы.

45 тысяч салдат і жыхары навакольных вёсак былі выкарыстаны ў якасці доследных трусоў у гэтым кашмарным эксперыменце. 5 хвілін пасля выбуху над палігонам з'явіліся самалёты. Правяралі таксама лётчыкаў. Пасля 30 хвілін у напрамку эпіцэнтра была паслана пяхота. Пра радыяцыю на палігоне салдат ніхто не папярэдзіў. Амаль цэлы дзень пару кіламетраў вакол месца выбуху змагаліся беларусы з беларусамі, расейцы з расейцамі. Манеўры прайшлі паспяхова. Маршалы, генералы і міністры падаліся на банкет. Першыя салдаты пачалі ўміраць з прычыны белакроўя год пасля манеўраў. Ніхто не ведаў, чаму хлопцам ва ўзросце 22—24 гадоў выпадаюць зубы і лезуць валасы, чаму іх дзеці нараджаюцца калекамі. Пра тое, што здарылася на Тоцкім палігоне забаронена было ім дзе-небудзь успамінаць.

Сёння, 40 гадоў пасля таго эксперымента, асталося ў жывых каля тысячы салдат-інвалідаў.

Такі сам лёс спаткаў і мірных жыхароў вёсак вакол палігона. Амаль усе памiралі з белакроўя. 93% нованароджаных дзяцей у забруджанай зоне мелі заганы ў працы сэрца або былі псіхічна хворыя.

Эксперымент, у якім свядома смяртэльнай небяспецы падвяргаліся дзесяткі тысяч несвядомых гэтага факта людзей, быў толькі падрыхтоўкай да ядзернай вайны, якой палігонам магла стаць уся Еўропа.

**Я. М.**

# МІНІСТР БУТЭВІЧ У „НІВЕ"

У пятніцу 23 верасня г.г. рэдакцыю „Нівы" наведаў спадар Анатоль Бутэвіч, які выконвае абавязкі міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Часовасць свайго становішча падкрэсліў сам міністр, але, як даведваемся, указ аб назначэнні спадара Бутэвіча на пост міністра ў новым урадзе Міхаіла Чыгіра чакае толькі подпісу прэзідэнта Лукашэнкі.

У нашай размове са спадаром міністрам закраналіся самыя розныя тэмы наконт сітуацыі беларускай культуры і сродкаў масавай інфармацыі, таму перадаю толькі асноўны змест супольных разважанняў.

На трывожлівыя пытанні аб будучыні беларусізацыі і беларускай культуры наогул, міністр Бутэвіч выказаў надзею, што адносіны новага ўрада да беларускай культуры не зменяцца на горшыя, а можна нават спадзявацца паляпшэння. Наконт супярэчлівых заяў прэзідэнта, аднатаваных прэсай, міністр заўважыў, што ў асноўным прэзідэнт заяўляе падтрымку для беларускай культуры. Міністр Бутэвіч спадзяецца, што пры канструяванні новага дзяржаўнага бюджэту сітуацыя культуры можа яшчэ палепшыцца. Так, палепшыцца, бо ў папярэднім бюджэце на культуру адведзены былі 2% агульных выдаткаў, г. зн. больш як у суседніх краінах. Для прыкладу, у Польшчы — няцэлы 1 працэнт. Міністр спадзяецца, што ў новым бюджэце адваюе на культуру каля 3% з агульных выдаткаў, прычым прыярытэт будзе адведзены менавіта беларускай культуры.

Безумоўна, асабістым дасягненнем самога міністра з'яўляецца цяперашняя выдавецкая палітыка ў Беларусі. Беларуская кніжка надалей, дзеля сваёй адноснай таннасці, даступная шырокаму колу чытачоў. Як ніколі раней, выдадзена было шмат кніжак, якія мацуюць нацыянальную свядомасць беларусаў. Такая палітыка патрабуе толькі працягвання.

Нашы пазіцыі разышліся ў іншай, ды мусіць больш важнай для сённяшняй культуры, справе — дзейнасці беларускага тэлебачання, а дакладней — у мізэрных поступах беларусізацыі ў ім. Перш за ўсё тычыцца гэта дубляжу ўсіх фільмаў на беларускую мову, чаго дагэтуль не робіцца. Спадар Бутэвіч адстойваў пазіцыю, што, з увагі на вельмі высокі кошт дубляжу, лепш выдзеліць гэтыя грошы на стварэнне новых беларускіх фільмаў. Адзначаў пры нагодзе, што ўсе фільмы беларускае тэлебачанне атрымоўвае дарма ад расейскага тэлебачання.

Усё-такі, здаецца, што гэта дары данайцаў. Два-тры фільмы ў год, якія здымаюць цяпер у Беларусі (ды неабавязкова добрыя), ледзь мільгануць на экранах. Тым часам „багатыя таксама плачуць" надалей на рускай мове, што безумоўна мацуе пазіцыі рускай масавай культуры ў Беларусі. Украіна паставілася да гэтай праблемы прынцыпова і ўсе фільмы на тэлебачанні агучаны па-ўкраінску.

Апошняй праблемай, якая закраналася ў размове, была магчымасць дапамогі для беларусаў Беласточчыны. Спадар міністр заахвочваў да шырэйшага супрацоўніцтва, хаця нічога абяцаць не браўся. Паколькі рана хваліць дзень перад захадам, аб нашых прапановах і выніках супрацоўніцтва ніжэйпадпісаны абяцае дэталёва паведаміць чытачоў праз год.

**Алег Латышонак**

# Што не скажу, гучала б банальна

**З АЛІЦЫЯЙ ХАРОЦЕЙ, вядомай беластоцкай мастачкай, пра Белавежу гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

Ужо добрых пару дзесяткаў гадоў мастакі з усяе Польшчы з'язджаюцца, пераважна восенню — калі пушча меніцца ўсімі колерамі палітры, у Белавежу на мастацкія пленэры. Тут яны чэрпаюць сваё натхненне, Белавежа дадае ім сіл. Малявалі тут не толькі польскія мастакі. На працягу гэтых гадоў бывалі тут і мастакі з Беларусі, Літвы, Грузіі, Германіі, Францыі, Даніі, Японіі ды іншых краін.

У першай палове верасня гэтага года адбыўся чарговы мастацкі пленэр, спонсарамі якога ўжо трэці год былі два ўлюбёныя ў мастацтва прэзасы беластоцкай фірмы „Косля" — Януш Кохан і Юліян Сляжынскі. (У мінулым годзе далажылася таксама бельская фірма „Амега").

На працягу двух тыдняў 12 мастакоў з Беластока, Варшавы, Кракава, Вроцлава і Токіо пераносілі на палатно свае ўражанні і эмоцыі. Якія яны былі гэтым разам?

* * *

*— Аліцыя, амаль няма года, каб ты не малявала ў Белавежы!*

— Праўду кажучы, у мяне ў даны момант няма ніякай ахвоты нікуды ездзіць. Цягне мяне толькі Белавежа. Метафізіка. Не магу растлумачыць, чаму так ёсць.

*— Але ж, наколькі мне вядома, ты бывала няраз і на іншых пленэрах — у Бяшчадах, у Ольштынскім ваяводстве, у Гданьскім таксама...*

— Іншыя пленэры цікавілі мяне з увагі на людзей, удзельнікаў пленэру. А тут: і зычлівыя людзі навокал, і дзіўны свет непаўторнай прыроды, і спецыфічны настрой царкоўных званоў — усё злілося ў адно. Тут мноства тэм — не трэба нічога прыдумваць. Само жыццё гэта паэзія.

Хто хоць раз паспытаў Белавежы, заўсёды сумуе па ёй і хоча прыехаць ізноў. Я не чула ад кагосьці, хто ездзіў сюды дваццаць гадоў, што ўжо не хоча тут пабыць.

*— Японка Мічыо Ямамота, аздоба вашага пленэру, таксама сказала мне, што на будучы год абавязкова прыедзе.*

— Так, Мічыо ўжо была другі раз у Белавежы. Ляцела сюды праз Галандыю. Цяпер яна едзе ў Вену і Парыж, дзе адбудуцца яе выставы графікі і вераў, а пасля — у Сан-Францыска, адкуль ужо проста дахаты — у Токіо. У Белавежы хоча быць і ў наступным годзе.

*— Аб'едзе ўвесь свет са сваёй 80-гадовай мамай, а пасля ізноў сюды?*

— Ізноў з мамай!

*— Здаецца, большасць сёлетніх удзельнікаў вашага пленэру ўжо бывала на белавежскіх пленэрах?*

— Усе яны ўжо тут былі! Ужо не гаворачы пра беластачан — Юрка Ленгевіча, камісара пленэру, Стэфана Рыбі, Збышка Вашчэнюка, Вікторыю Тур, Полю Ажэховіч, Збышка Свідзінскага, — якім усё-такі да Белавежы бліжэй, дык і мастакі з Варшавы — Мацей Мадзалеўскі, Мацей Мілеўскі, Марыя Анто, і графік Люцыян Мяноўскі з Кракава — выкладчык Вышэйшай мастацкай школы ў Познані, і Бенедыкт Краплеўскі з Вроцлава, — усе яны ўжо чэрпалі натхненне ў сэрцы Белавежскай пушчы.


*Аліцыя Хароцей.*

*— Аднак жа, як я бачыла, многія малявалі тое, што і заўсёды...*

— Кожны маляваў тое, што малюе. Але, можа, маляваў, бо ёсць у гэтай Белавежы нейкая чарадзейская аўра. Я, напрыклад, кожны раз адкрываю яе нанова. Гэта невычэрпная крыніца маёй творчасці.

*— Ці можна спытацца, што ты адкрыла ў Белавежы на гэты раз?*

— Усё, што не скажу, гучала б банальна! Ты ж бачыла, што я намалявала.

*— Так, тры карціны: дыптых і яшчэ адну. На ўсіх — купалы цэркваў, свечкі, белавежскі настрой. Мне нават здалося, што клімат праваслаўя аказаў на цябе яшчэ больша ўплыў, чым прырода.*

— Усё тут адно ад другога залежнае, усё аднолькава важнае. У кожнай карціне я імкнуся паказаць, як чалавек уваходзіць у глыбейшы стан свядомасці.

*— Першая карціна найбольш рэалістычная сярод тваёй абстракцыі.*

— Так, тут пераважаюць знешнія стымулы — фрагменты цэркваў гэта як бы ўводныя сімвалы ў таямніцу жыцця і смерці, веры ў вышэйшую сілу і вечнасць прыроды.

*— Але ў другой і трэцяй карціне ты ўсё больш аддаляешся ў бок абстракцыі...*

— У другой карціне я паказваю як бы другую зону. Тут пераважае настрой у сярэдзіне царквы. Мне хацелася перадаць усе пачуцці чалавека, якія агортваюць яго ў царкве, калі ён бачыць святыя абразы, запаленыя свечкі, чуе спевы, калі моліцца...

*— А трэцяя карціна — гэта быццам заканчэнне тваёй думкі?*

— Трэцяя карціна — трэцяя зона. Гэта якраз тое, што застаецца ў нашай падсвядомасці, а на што мы ўжо не можам аказаць ніякага ўплыву. У мастацтве мяне найбольш цікавяць станы нашых пачуццяў, эмоцый, якія напамінаюць станы медытацый.

*— Я так зразумела, што, калі хтось ужо ўвайшоў у святыню „Белавежа", дык ён ейны назаўсёды?!*

— Несумненна.

**Фота Ады Чачугі**

# Гарадоцкае навучанне мовы

— У навучанні беларускай мовы не маю ніякіх праблем, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Гарадку **Галіна Паплаўская**, — патрэбныя былі мне раней падручнікі, я звярталася туды і сюды, таксама ў Беларускае таварыства, але ніхто мне ў гэтым не дапамог. У рэшце рэшт я сама іх раздабыла і справа закончылася, а дзеці вучацца.

Навучанне беларускай мовы ў Гарадку усталявалася на тым жа ўзроўні, што і ў мінулым годзе. У школе вучыцца агулам больш за 600 дзетак. Семдзесят працэнтаў з іх — праваслаўныя. На ўрокі роднай мовы ходзіць 45 асоб, што складае 7,5 працэнта ўсіх вучняў. Ёсць сярод іх двое католікаў, што дае адзін працэнт вывучання беларускай мовы ў Гарадку католікамі. Навучанне мовы праводзіцца ў класах II-V. У другім класе вучыцца 12 дзетак.

У гэтым годзе навучэнцы Г. Паплаўскай удзельнічалі ў дзіцячым лагеры над возерам Нарач, арганізаваным Згуртаваннем беларусаў свету „Бацькаўшчына". З Гарадка паехала туды шасцёра дзетак, спонсарам якіх была фірма Віктара Стахвюка з Беластока. Гарадоцкая група з агульнага ліку 600 удзельнікаў вылучылася там сваёй праграмай. На лагеры дзеткі адсвяткавалі Купалле — гонар адчыніць святкаванне песняй „Купалінка" прыпаў якраз гарадчанам. Настаўніца Г. Паплаўская, праз пасрэдніцтва „Нівы", выказвае словы падзякі спонсару.

У гэтым годзе навучаннем беларускай мовы ў Гарадку займаецца яшчэ адна настаўніца — **Зінаіда Пашкоўская**. Па-за ўрокамі дзеткі займаюцца лялечным тэатрам. Самі выконваюць лялькі ды рыхтуюць пастаноўкі.

Нядаўнім часам гарадоцкая Пачатковая школа падключылася была ў акцыю парадкавання сэту з Радыё Беласток. Смецце ў Гарадку збіралі звыш паўтысячы чалавек, па мясцовасці пятлялі грузавікі... Работнікі радыёвяшчання, на жаль, не заглянулі туды, хаця і абяцалі.

Калі ідзе пра навучанне беларускай мовы ў школе, настаўнікі шкадуюць дрэннай статыстыкі. Кожны год праводзяцца сустрэчы з бацькамі, на якіх настаўнікі заахвочваюць пасылаць дзяцей на гэтыя ўрокі. Усе згодна сцвярджаюць, што самы лепшы падыход да дзяцей мае Лявон Тарасэвіч. Ён жа, для прыкладу, падарыў вучню пятага класа Гжэсю Цітко кашульку з вывай Пагоні на грудзях. Падмацаваны гэтым хлопец, як пачуў я ад гарадоцкіх, прыслаў з-над Нарачы прывітанні Л. Тарасэвічу на беларускай мове. Можна спадзявацца, што Гжэсь не кіне вывучаць беларускую мову і ў шостым класе.

**(ам)**

# СОРАМ БЕЛАСТОКУ!

З 1 верасня гэтага года ў Вільні працуе свая беларуская школа! Яе нумар — 68 і змяшчаецца яна ў былым дзіцячым садку н-р 38 у Каралінішках, побач ляска. Гэты даволі вялікі будынак адрамантавалі падчас канікул бацькі і настаўнікі.

Раней пры школах н-р 17 і 13 працавалі толькі беларускія класы. А вось цяпер — свая школа з нядрэннымі ўмовамі.

Новы навучальны год пачало 140 вучняў і 34 настаўнікаў. У школе 12 класаў.

Прыемна было слухаць у Вільні пра будучыню, пра патрэбу адкрыць яшчэ дзіцячы садок — беларускі — бо ж новыя дзеці падрастаюць.

На жаль, не ўсе дзеці відных беларускіх дзеячаў ходзяць у беларускую школу, некаторыя выбіраюць літоўскую.

Усё ж такі, калі параўнаць Вільню з Беластокам, аказваецца, што ў гэтым апошнім нічога апрача ідэі стварэння беларускай школы не змяняецца. А ў Беластоку пражывае амаль уся наша інтэлігенцыя — выхадцы з беларускіх вёсак. Іх дзеці якраз цяпер у школьным узросце. Паланізацыя адбываецца галоўным чынам праз школу. Як жа будзе сумна праз некалькі гадоў, калі самі выгадуем беларускіх манкуртаў.

**Лена Глагоўская**

P.S. Прачытаўшы ў апошняй „Ніве" пра пачатак школьнага года на Беласточчыне, не здзіўляюся, што беларусам не патрэбна свая школа. Калі настаўніца беларускай мовы адказваецца агітаваць за яе навучанне, дык, выбачайце, хто гэта мае рабіць?! Калісьці мяне вучылі, што настаўнік у сваёй працы павінен рэалізаваць наступныя мэты: „poznawczy, kształcący i wychowawczy". Пакіну гэта без каментарыя, бо ён тут ясны, калі ў школах, дзе пражывае большасць беларусаў спяваецца „Першая брыгада", а „святыні ведаў" носяць імя Юзафа Пілсудскага.

**Л.Г.**




# ДЭБЮТ

## ВЕСНІЦЫ РАЮ

*Вадзіму*

блукаю вокам па голых сценах
золак яшчэ спіць
а сны павольна блекнуць
зямлі не кранаюся пальцамі
— адчуваю крылы ў плечах
як ластаўка
яшчэ пёркамі пагладжваю зямлю
хаця ўжо лунаю да сонца
ці я сапраўды знайшла сябе
ці сядзець на досвітку
які яшчэ спіць
а можа мне ўсё сніцца
імглы
сонечныя вясёлкі ў іншым свеце
які змяняе лёс
аднак не ведаю адказу
так цяжка быць анёлам
калі зачыненая брама раю

## ДЛЯ ЭЛІЗЫ БЕТХОВЕНА

*Міхалу Камінскаму*

цяжка размаўляць толькі вачыма
але
ў жыцці ўсё ёсць магчымасцю
нават танец позіркаў
у адным спляценні „Для Элізы"
Бетховена
і ў адной хвіліне смутак
чуеш той шум
ляжыш
а ў вушах паток
ціхі плёскат
вада па калена
павольна
цалуе
плечы
шыю
валасы
ужо мяне няма
цішыня
аднак штодзённа чую наша маўчанне
бляск вока
і зноў танец позіркаў

* * *

*19 ліпеня 1993 г., Раўбічы,*
*Юрку Хвашчэўскаму*

душна
ціхі вечар
павольна змаўкае гарачыня сонечных
струн
блакітныя коні шпарка
шпарка па полі
нясуць немы голас ветру
а на цёплых крылах халодная раса
а можа кроплі слёз
гэтага ўжо хіба ніхто не помніць
вецер заблукаўся ў лістах чыёйсьці
кніжкі
і выявіў забытую тайну мінулага
пабляклы ліст
у вачах пацямнела
а паветра
напоўнілася
ціхім
гусцеючым змрокам
зайграла музыка
заблішчэлі высока бенгальскія агні
раптам
пясняр змоўк
хіба штосьці ўтаіў
і пайшоў не пакідаючы нават свайго
цэню на муры
штосьці трэснула ў душы якой і так
мала
ціха
без болю паплыў ён у краіну забыцця

**ІВОНА МАРЦІНОВІЧ,**
**Краснае Сяло,**
**студэнтка Акадэміі мастацтваў у Менску.**

## ТАЛЕРАНТНАСЦЬ

Стукаю ў дзверы
акружаючых
мяне вачэй

Клямкі здрыгануцца
не хочуць
зашчамляюцца

Негасцінныя зрэнкі курчацца
рукі ўздымаюцца
ГНЕВАЮЦЦА НА РОЗУМ

УСЕ!, — гэта не сон

А наша пустэча
ёсць пачаткам
стану страху

**ЛУКАШ СЦЕПАНЮК,**
**вучань белліцэя**
**ў Бельску-Падляшскім.**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

## Вершы Віктара Шведа

*З падарожжа*

### У СПАЛЬНЫМ ВАГОНЕ

Пакойчык наш малюткі,
Людзей тут скромны лік,
Імчыць даволі хутка
Над мора наш цягнік.

Нас мучыць падарожжа,
Хістаецца вагон,
Калышацца наш ложак
І наганяе сон.

### УСХОДЫ Ў ХЛАПОВЕ

Ад пляжа ўздыбленыя ўсходы,
Прыступкаў тут сто дзевяноста.
Імі ўздымаемся заўсёды,
Пад'ём уверх не надта просты.

Упартая надзвычай Ната
Адольвае ўсе перашкоды.
Поўняцца шчасцем вачаняты,
Калі яна наверсе ўсходаў.

### МАМА, Я — ДАМА!

Марскую гладзь узбударажыў
Вецер, купацца стала цяжка.
А ратаўнік стары на пляжы
Упадабаў сабе Наташку.

Цалуе Наты ручаняты
І называе Нату дамай.
У Наты ўжо настрой прыўзняты,
Кажа: — Я — дама, мая мама!

*З вучнёўскай творчасці*

### ЯБЛЫК

Толькі да яблыні падыдзі
І яе страсані —
Зляціць табе яблык жоўташчокі,
Сакавіты, здаровы, круглабокі.

Каб яблык вырас гэты,
Мой тата яблыньку купіў
І ў зямлю пасадзіў,
І чакаў столькі летаў,
Каб вырас яблык гэты.

Толькі яго паспрабуеш,
У памяці заўжды ягоны смак адчуеш,
Сок белы і салодкі,
Быццам цукеркі маёй цёткі!

**Юрка Буйнюк, Малліннікі**

Юрка Буйнюк.

*Выступаюць спевакі з Краснага Сяла.* **Фота Міколы Ваўранюка**

# РОХЛЯ

На лясной палянцы жыла Казачка з казлянятамі. Усё ў іх спачатку ішло добра. А павырасталі казляняты, разбегліся каторае куды, Козачка пастарэла, — і грады лебядою зараслі. І тады Козачка рашыла звярнуцца да свінні Рохлі за дапамогай.

— Паважаная Рохля! — сказала яна. — Мо б ты грады мне ўскапала?

Парохкала для прыліку Рохля і прамовіла:

— Ускапаю! Лыч пакуль не падводзіць.

Не паспела Козачка ў дуброве жалудоў назбіраць, каб разлічыцца з Рохляю за тую фатыгу, як палянку не пазнаць было. Грады — уздыбіліся камлыгамі. Куст каліны — з каранямі выдраны. Суседняя лугавінка — рыжым пяском паблісквае. Бярозка — паваленай ляжыць. Крынічка — зямлёю засыпана.

Убачыла ўсё тое Козачка і ледзь не самлела:

— Што ты нарабіла, Рохля?!

А Рохля лыч задрала, фанабэрыцца:

— Я, мілая, заадно поўную меліярацыю правяла!..

Села Козачка на паваленую бярозку і заплакала.

А казляняты?

Убачыце іх — скажыце: няхай дадому вяртаюцца. Калі пастараюцца, то могуць яшчэ і ўратаваць сваю палянку.

**Яраслаў Пархута**

*ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ*

*Ала Канапелька*

### ДОЖДЖ НА АДПАЧЫНКУ

Палівала Ганна градкі,
усе кветкі па парадку,
а пасля гуркі і перцы —
з невялічкага вядзерца.

Дзядзька-дождж на адпачынку.
Сваю працу на дзяўчынку
ён даверыў.
І малеча
тут шчыруе кожны вечар.

Будуць добрыя гурочкі!
Працаўніцы — два гадочкі.

### СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК

Улетку зайка — шэранькі,
зімою зайка — беленькі.
Наш зайка —
найвясёлы,
наймаленькі,
ён сонечны і залаценькі.
Скакаць, гуляць навучаны,
вось толькі не прыручаны!

### ВЕТРЫК

Ветрык, ветрык,
не ляжы,
а са мною пабяжы.
Я — па сцежцы,
ты — па траўцы,
годзе нам
сядзець на лаўцы!
Ветрык, ветрык,
раз, два, тры,
хто спрытнейшы —
я ці ты?

Адгаданка „Падарожжа..."

Ш э р ш э л я ф а м. *Ака, акула, абочына, атмасфера, аркестроўка, астрабатаніка, акумулятаршчыца, акардыяністыка, альпіністка, алімпіяда, асьміна, асоба, аса і інш. Ала — Аза; арфа — арба; атара — атава; атрута — асечка; андатра — адзнака; атлетыка — атэістка; адзінка — абарона; аснова — асушка; атака — асіна; арка — айва; Ада — ара.* „П т у ш ы н ы я" с л о в ы. *Ара. Баран, варан, гараж, карат, марак, барак, марал, таран, харал, парад, зарад, вараг, сарай, Нарач, Марат, Тарас і інш.* Ш э р ш э л ь ом. *Халат, палац, камар, наган, качан, фазан і інш.* К а м е р а х а в а н н я. *Ар, Аха, акын, армія, асвета, Арктыка, антылопа, атмасфера, Антарктыда, аспірантура, акампанемент, адміністрацыя, авінавачанне, абмундзіраванне, ахвярапрынашэнне. Рак — кар — рад — дар.*

## 18
## СВАРКА З РУДЫМ САБАЧКАМ
## (1)

Мы з Дзікам ішлі па вуліцы і спявалі. Да гэтага хіліў падтуманены маёвы ранак, неабуджаная цішыня ў горадзе.

Дакладней кажучы, спяваў адзін я, Дзік ступаў поруч, задзіраў галаву і... усміхаўся. Праўда, праўда, усміхаўся! Падціскаў ніжнюю губу і крыху падымаў верхнюю: выскальваліся два рады іклаў, але не папярэджвальна і пагрозліва, а вельмі прыязна, акурат — усмешка.

Зараз гэтае пасміханне выяўляла высокую ступень задаволенасці самою праходкай, вясновай раніцай: цёпла, сонечна, чаму ж бы не заспяваць і сабаку!

За плоцікамі дамавых агародж ускраіны сінеў пахучы бэз, стаялі, як пад вянец убраныя, ігрушкі і слівы. Хараша ўсім!

Апрача ўсяго іншага, у Дзікавым запабяганні і падлешчванні чулася просьба: „Можа, я пабягу наперад? Дазволіш, а?"

Сабака ўвесь час прыбаўляў кроку і падскокваў, мерачыся зазірнуць у вочы. Я рабіў выгляд, нібыта не заўважаю гэтых хітрыкаў. На вуліцы Дзік мусіў хадзіць пры назе, каб не нагнаць страху каму сустрэчнаму. Перасцярога амаль залішняя: ён быў не здольны зрабіць нічога некарэктнага. На жаль, гэтага не ведалі пешаходы: палохаліся, кідаліся ўбок, а жанчыны падымалі крык.

Чаму ён прасіўся, было таксама зразумела. Парк, куды мы кіраваліся, абяцаў многа рознай уцехі: бегай — колькі ўлезе, скачы — куды хочаш, качайся па траве.

Выйшаўшы на бакавую алею, я даў дазвол:

— Добра, паганяй!

Сабака цяўкнуў, лізнуў мне шчаку і знік.

Калі казаць праўду, Дзік умеў спя-

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

ваць і, сцвярджалі суседзі, не так і блага, можа, на саліста і не выцягваў, але падгалас даваў прыстойны.

Здарылася, усе дарослыя з нашай кватэры сыходзілі па справах ці ў госці або ў тэатр. За вартаўнікоў заставаліся Іна і Дзік.

Скончыўшы рыхтаваць хатнія заданні, дзяўчынка спакоўвала ў партфель патрэбныя на заўтра сшыткі і падручнікі. Заняткаў іншых не знаходзілася, кніжак новых не было, рабілася нудна. Апрача таго, сабака-то сабака, а ўсё роўна страшнавата перабываць адной цэлы асенні вечар, а час жа валачэцца надзвычай марудна. Праб'е хіба гадзіннік на сцяне, ды чакай таго бою зноў паўгадзіны. А ў цябе за худымі плечкамі ўсяго нейкіх дзесяць гадоў.

І дзяўчынка бралася спяваць усё, што ўспамінала. Украінскія, чутыя ад бабкі спевы, беларускія — народныя і партызанскія, нават рамансы, падхопленыя з рэпрадуктара.

Сабака сядаў насупраць канапкі, куды яна ўмошчвалася з нагамі, і пачынаў дапамагаць. Падвываў спярша паціху дый забіраў на поўны голас, мудрэй за спявачку.

Жыхары суседняй кватэры і нават бліжэйшага дома ведалі, што гэта за нагода: пяюць, значыць, у хаце дарослых няма. Нам самім доўга слухаць дуэт не ўдавалася. Сабака адразу ж пазнаваў крокі на ганку. Якія там спевы — вярнуліся! І кідаўся сустракаць, намагаўся зняць дзверы з кручка, цягнуў паліто з рукавоў.

Парк, у маладым, не густым яшчэ лісці, праглядваўся наскрозь. Я ішоў нібыта праз заслону тугога прахалоднага паветра ад рэчкі, куды падавала неба, злівалася з празрыстай парай над нягучнымі хвалямі. У вершалінах дрэваў свяціўся кволы блакіт, вострa патыхала сырою карой, слаўся водар зямлі і паадрослай за ноч травы.

Клікаць свайго спадарожніка не хацелася, навошта, — ён недзе недалёка, асочыць мяне сам. Каб і хацеў, не ўцячэш.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ
## 2

Шэршэ ля фам

Перад намі дзве зашыфраваныя табліцы, прысланыя разам з запіскай. Адну трэба запоўніць назоўнікамі жаночага роду, якія пачынаюцца і канчаюцца літарай *а*; другую — такімі ж назоўнікамі, але іх па два ў радку, і апошняя літара першага з'яўляецца першай літарай другога:





„Птушкавыя" словы

Так. Знайшлі ўсе „ля фам". Цяпер можна адпачыць. Але хто гэта стукае да нас у акно? Пярэстая птушка з выгнутай дзюбай. Трэба яе ўпусціць, даведацца, што гэта стракатая хоча.

— Я — паўднёвая госця, — ганарыста сказала птушка, — упэўнена, што вы ведаеце, як мяне завуць. Усе гэта ведаюць. Мне сказалі, што тут у вас праводзіцца нейкая аперацыя „А". Ці не збіраецеся вы ў такой важнай справе абысціся без мяне? Дык чаму ж да гэтага часу мне не паслана запрашэнне?!

Мы пераглянуліся: нашто яна нам? У нашай справе самаўпэўненасць — дрэнны памочнік, тут працавітасць і настойлівасць патрэбныя.

— Ці бачыце, — сказалі мы, — дэтэктыўная справа, якой мы цяпер займаемся...

— Дэтэктыўная? — сваім рэзкім голасам насмешліва перапыніла птушка. — Трэба яшчэ паглядзець, якія з вас дэтэктывы! Справай яны тут займаюцца... Зараз я вам справу дам, сапраўдную справу, паглядзім тады, як вы з ёю справіцеся. І пакуль не зробіце яе, нікуды адсюль не выйдзеце, — з гэтымі словамі птушка падляцела да дзвярэй, павярнула дзюбай ключ, выцягнула яго і засціснула ў кіпцюрастай лапе.

Вось якую справу прымусіла нас выканаць гэта замежная госця: *калі да яе назвы злева і справа дадаць па літары, атрымаецца новае слова, з пяці літар.* Мы з палёгкай уздыхнулі: знойдзем мы ёй зараз некалькі слоў — і ляці тады здарова! Мы памыліліся: такіх слоў, як бачна, столькі, што сядзець нам тут да знямогі — і то невядома, ці здаволіцца ганарлівая птушка.

Дапаможыце нам, дзеці, вас жа многа. Хто больш знойдзе такіх „птушкавых" слоў?

Аперацыя „А" прадаўжаецца.

Шэршэ ль ом

Птушка паляцела, задаволеная выкананнем яе задання. І мы тады ўспомнілі, што яе з'яўленне перабіла размову, якую мы толькі пачалі. А размова была вось аб чым: мы тады скончылі *шэршэ ля фам* і падумалі, што сярод мноства слоў, з якімі мы павінны мець справу ў нашай аперацыі, ёсць, відаць, і словы мужчынскага роду (па-французску мужчына — *ль ом*). Праверым нашу здагадку. Нам лягчэй гэта будзе зрабіць, скарыстаўшы звыклую ўжо схему: зноў словы з пяці літар, зноў *а* — цотныя (2-я і 4-я). У каго будзе запісана больш такіх слоў? Мы таксама прымем удзел ... прабачце, тэлефонны званок.

Нам паведамілі, што нам адрасавана дзіўная пасылка: унутры час ад часу нешта сіпіць. Выязджаем, кірунак —

Камера хавання

Яна знаходзіцца ў падвальным памяшканні, куды трэба сысці па вось гэтай лесвіцы. Спускацца трэба асцярожна, уважліва — вам зразумела, чаму так?



Цяпер, калі мы павольна, з прыступкі на прыступку, на кожнай з іх успамінаючы патрэбнае для таго, каб рухацца далей, слова, спусціліся ў падвальнае памяшканне і падышлі да камеры хавання, нам трэба набраць код, каб адчыніць дзверы камеры. Вось такі код: ён набіраецца ў напрамку, паказаным стрэлкай; павінна атрымацца чатыры словы; першая літара кожнага — гэта апошняя літара папярэдняга. Тыя самыя словы павін-ны чытацца і ў адваротным напрамку.

| | | |
|---|---|---|
| | а | |
| а | ● | а |
| | а | |

Набралі код, забралі з камеры пасылку — і праўда, у ёй нешта ці то сіпіць, ці то свішча. Трэба хутчэй ехаць дадому і паглядзець, што ў ёй.

*(працяг будзе)*

*Арсен Расцветнікаў*

**ВЕРШАВАНЫЯ ЗАГАДКІ**

* * *

Залатая пшаніца
ў сіняй місе іскрыцца.
Місу не купілі —
над зямлёй перакулілі.
Дзе ж яна? Пад ёю
ходзім мы з табою.
......

* * *

Дзіва-коні
выбеглі на гоні —
аж мігцяць паміж платоў
дзесяць шпаркіх капытоў.
Конюх я шчаслівы,
вельмі клапатлівы.
Калі ж мне не верыш ты,
паглядзі на капыты
і прыкмець: у коней зноў
пара новенькіх падкоў.
Коні гэтыя, вядома,
абыходзяцца без бомаў,
без вуздэчкі і без вожак,
бо са мной кладуцца ў ложак.
.....

* * *

Днём і ноччу на сцяне
мліва мелецца ў млыне.
Кола круціцца паволі,
не спыняецца ніколі,
звоніць, стукае, спявае
і пярэдыху не знае.
Млын працуе сто гадоў —
ні зярнятка не змалоў.
.....

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

— Бабуля, чаму мы не паехалі цягніком?

— Не было білетаў.

— Ну і людзі! Не маглі ўжо іх больш нарабіць!?

* * *

— Колькі я табе разоў казала, каб ты не гуляў з Янкам: ён непрыстойны і дрэнна выхаваны хлопчык!

— Тады, мама, няхай Янка гуляе са мною: я ветлівы і добра выхаваны.

* * *

— Ганна! Колькі разоў казаў я табе: не мачы свае пальцы ў страву — брыдка есці.

— Я толькі павучка выцягнула.

* * *

Малы просіць у маці арэхаў.

— Развяжы торбачку ды і вазьмі сам жменьку.

— Не хачу сам. Скажы, каб мне тата даў жменьку, — плача малы.

— Чаму тата? — пытаецца маці.

— А ў таты жменя большая.

* * *

Малы хлопчык, якога ў хаце бацька часта дзягай сцёбаў, падыходзіць да прыехаўшага ў вёску доктара і кажа:

— Пан доктар! Ці ведаеце вы таго бусла, што сюды дзяцей прыносіць?

— Ведаю. А што?

— Мо скажаце яму, каб мяне адгэтуль назад забраў, бо ў нашай вёсцы абы за што толькі і б'юць!..

# НАШЫ ГУЛЬНІ

**Гусі ляцяць**

Мэта гульні. Развіццё ў дзяцей слыхавай увагі, хуткасці мыслення, выхаванне вытрымкі.

Змест. Дзеці садзяцца паўкругам, рукі кладуць на калені. Настаўнік тлумачыць правілы гульні: „Я буду называць прадметы і пытаца „Лятае?" Напрыклад: „Голуб лятае? Самалёт лятае?" і г.д. Калі я назаву прадмет, які на самай справе лятае, вы падымаеце рукі. Калі я назаву прадмет, які не лятае, рукі падымаць не трэба. Вам трэба быць уважлівымі, таму што я буду падымаць рукі і тады, калі прадмет лятае, і тады калі ён не лятае. Хто памыліцца, заплаціць фант".

Пастукваючы па каленях, настаўнік і дзеці гавораць: „Паехалі — паехалі". Затым настаўнік пачынае гульню: „Галка лятае?" — і падымае рукі. Дзеці паўтараюць гэты рух. „Дом лятае?" — пытае выхавальнік і падымае рукі. Дзеці трымаюць рукі на каленях.

У многіх дзяцей спачатку рукі неадвольна, у сілу перайманне, падымаюцца кожны раз. Але ў тым і заключаецца сэнс гульні, каб своечасова стрымацца і не падняць рукі, калі названы нелятаючыя прадметы. Хто не стрымаўся, плаціць фант і выкупляе яго ў канцы гульні. Таго, хто памыліўся, можна злёгку падражніць. Напрыклад:

Дуб ляціць,
На ім Ваня (Пеця, Люба) сядзіць!
Або:
Карова ляціць,
Хвастом круціць.
На ёй Каця сядзіць,
На нас глядзіць:
„Упаду, паб'юся,
Другі раз не памылюся!"

У далейшым роля вядучага даручаецца каму-небудзь з дзяцей.



*Лета з татам.*

**Фота Міры Лукшы**

<u>Помнікі архітэктуры Беларусі</u>

# ПОЛАЦКІ САФІЙСКІ САБОР

Полацкая Сафія была збудавана ў сярэдзіне XI стагоддзя ў цэнтры полацкага дзядзінца, але няўмольны час не захаваў да нашых дзён велічнага абліччa храма. Сафія шмат разоў перабудоўвалася і дайшла да нас у выглядзе помніка, створанага ў сярэдзіне XVIII стагоддзя ў стылі „віленскага барока". Ад першапачатковага будынка засталіся толькі падмуркі, рэшткі слупоў, кавалкі апсід і сцен, якія склалі аб'ём храма XVIII стагоддзя.

Полацкая Сафія пабудавана ў тэхніцы мяшанай муроўкі, падобнай да візантыйскай. Акрамя плінфы выкарыстоўвалі камяні з палёў. Іх рады чаргаваліся з цаглянай муроўкай, што ўяўляла сабой чаргаванне выступаючага і схаванага радоў плінфы з запаўненнем цамянаючнай рошчынай прамежка паміж выступаючымі радамі цэглы шырынёй 10—12 сантыметраў.

Сцены Сафіі, як і пазнейшых пабудоў, не тынкаваліся, таму вонкавы выгляд Сафіі быў вельмі прыгожы. Цёмныя спакойныя колеры камянёў удала спалучаліся з вузкімі радамі чырвонай плінфы і шырокімі палосамі ружовай рошчыны. Дах будынка быў пакрыты свінцовымі лістамі. Вучоныя мяркуюць, што Сафія мела сем купалоў. Магчыма, галоўны купал храма быў пазалочаны. План Полацкай Сафіі блізкі да квадрата (прыкладна 26,5 х 25,5 метра). Галоўны купал размешчаны якраз пасярэдзіне будынка. Унутраная прастора Сафіі падзелена 16 крыжовымі ў плане слупамі на 5 прадольных нефаў.

Усе сцены і слупы ўсярэдзіне сабора былі аздоблены фрэскамі — маляўнічым роспісам, выкананым на вільготнай тынкоўцы. Да нас дайшлі, на жаль, толькі невялікія кавалкі багатых разнакаляровых арнаментаў Сафіі. Падлога ў храме была выкладзена з невялікіх паліваных плітак.

Зараз Сафійскі сабор адноўлены і прыстасаваны пад канцэртную залу. У яго падземных сутарэннях, дзе добра відаць рэшткі муровак XI стагоддзя, размясціўся археалагічны музей.

**Алег Трусаў**

<u>Сенсацыйнае адкрыццё!</u>

# ЯН ТАРАСЕВІЧ —ЗАБЫТЫ БЕЛАРУСКІ ГЕНІЙ

— To był Geniusz, genialnie genialny Geniusz, — сказаў Ежы Максымюк, сусветнай славы дырыжор, кіраўнік Шатландскага камернага аркестра.

У кніжцы А. Гжэеўскай „Ten wariat Maksymiuk" ёсць асаблівы фрагмент, у якім Ежы Максымюк успамінае, што ў пасляваенныя гады ў Беластоку жыў славуты кампазітар, дваранін з-пад Саколкі, Ян Тарасевіч. Чалавек-легенда, піяніст, кампазітар, педагог. Прыязджалі да яго Рахманінаў і Сібеліус. Сам Максымюк не быў вучнем Тарасевіча. Існуюць аднак музычныя запісы Тарасевіча ў выкананні Ежы Максымюка.

Цікавыя ўспаміны пра Яна Тарасевіча расказаў мне карэспандэнт „Нівы" Эдвард Шчасновіч са Шчасновічаў, што каля Саколкі. У 1932—34 гадах Шчасновіч працаваў парабкам у Тарасевіча. Яго ўспаміны датычаць пераважна сацыяльных спраў і папаўняюць вобраз кампазітара як чалавека.

— Пан быў сярэдняга росту, недзе 175 см, таўставаты, круглы на твары. Такі мажлівы быў чалавек, не за тонкі. Быў бландзінам, меў кароткія валасы стрыжаныя пад вожык, часаўся ўверх. У пана не было ў запасе грошай, усё яму не хапала. Галоўнай крыніцай даходу быў лес, продаж малака і збожжа. Амаль усе харчовыя прадукты куплялі мы ў Саколцы. Маёнтак абслугоўвалі эканом Лявіцкі, два парабкі і дзве служанкі. Тарасевіч жыў адзін. Памятаю толькі, што прыязджала да яго пані з Інавроцлава. Разам з паняй была дзяўчынка, казалі, што гэта яго дачка.

Падобнага тыпу інфармацыі папаўняе выхаванец Тарасевіча Анатоль Чэрапінскі з Любліна. Гаворыць ён, што Тарасевіч быў не толькі плённым кампазітарам, але і „майстрам на ўсе рукі". Маляваў партрэты, быў чырванадрэўшчыкам — рабіў уласнаручна мэблю, адліваў фігуркі з бронзы, сам пабудаваў дом у маёнтку Шындзель. Чэрапінскі атрымаў у спадчыну вялікі архіў Яна Тарасевіча. Дзякуючы яму вядомымі сталі некаторыя факты з жыцця кампазітара.

У Савецкай Беларусі прозвішча Яна Тарасевіча замоўчвалася. Нядаўна, зусім выпадкова, у Менску адкрылі славутага кампазітара. Пачалося менавіта так. У Варшаву прыехала на гастролі спявачка з Менска. Да яе паваніў згаданы ўжо Анатоль Чэрапінскі і сказаў, што ў яго ёсць архіў беларускага кампазітара. Вестка хутка дайшла ў Менск і неўзабаве наладзіўся кантакт з Анатолем Чэрапінскім. Ад яго зацікаўленыя справай атрымалі звыш 30 твораў кампазітара. Здзіўленню і захапленню не было канца. Зараз вядуцца доследы і намаганні вярнуць прозвішча Тарасевіча ў беларускую нацыянальную музыку. Выглядае на тое, што Беларусь узбагаціцца класікам нацыянальнай музыкі. Творчасцю Тарасевіча моцна зацікавіўся кіраўнік тэатральна-канцэртнага аб'яднання „Беларуская капэля" Віктар Скарабагатаў. Існуюць ужо запісы твораў кампазітара ў выкананні вядучых талентаў краіны: Ігара Алоўнікава, Віктара Скарабагатава, Ганны Каржанеўскай і хору „Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева.

Зацікаўленне асобай кампазітара праявілі прэса, радыё, тэлебачанне. Постаць Яна Тарасевіча, аднак, мала вядомая і патрабуе сумленных даследаў.

Ян Тарасевіч нарадзіўся ў канцы XIX стагоддзя ў Саколцы. Быў сынам царскага падпалкоўніка. Атрымаў ён старраннае хатняе выхаванне, а ў 10-цігадовым узросце іграў па памяці Ліста і Шапэна.

Спачатку юнак вучыўся ў ваенным вучылішчы. Закончыўшы Полацкі кадэцкі корпус, у 1903 годзе паступіў ён на фартэпіянны факультэт Пецярбургскай кансерваторыі. Там вучыўся ў прафесара Абрамыча, а потым у прафесара Быстрова. У 1910 годзе стаў выкладаць у прыватнай школе Быстрова. Праз 2 гады Тарасевіч закончыў кансерваторыю як піяніст, дарэчы, IV Канцэртам Рубінштэйна. На яго звярнуў увагу прафесар Глазуноў і ён зноў паступае на тэарэтычны факультэт у Кансерваторыю.

У час I вайны ваяваў ён на фронце і там за раненне быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам.

У міжваенныя гады пражываў ён у маёнтку Шындзель у 7 кіламетрах ад Саколкі. Калі ў 1939 годзе прыйшлі саветы, кампазітар падаўся ў Латвію. Вярнуўся пры нямецкай акупацыі. У маёнтку Шындзель жыў да 1947 года. Пазбаўлены маёмасці, перасяліўся ён у Беласток. Памёр там у 1961 годзе. Пахаваны на праваслаўных могілках у Саколцы.

Ці можна лічыць Яна Тарасевіча менавіта беларускім кампазітарам? — ставяць пытанне даследчыкі.

У 1900 годзе памерлі маці і бацька Яна Тарасевіча. Яго прыёмнымі бацькамі сталі сястра маці і ейны муж. Яны падарылі яму маёнтак Шындзель. Самі праўдападобна загінулі ў час „бежанства". Прыёмны бацька быў выпускніком Тэхналагічнага пецярбургскага інстытута. Магчыма, што ён удзельнічаў у беларускім студэнцкім руху і меў уплыў на свайго выхаванца.

Вядома, што з 1912 года Ян Тарасевіч пачаў працаваць над беларускай нацыянальнай музыкай. Быў ён знаёмы з Язэпам Віталем — пачынальнікам новай латышскай класічнай школы. Захаваўся ліст Янкі Тарасевіча да Вацлава Іваноўскага. Пісьмо адпраўлена было з маёнтка Шындзель 12.06.1920 года, і напісана яно было на беларускай мове. У пісьме Тарасевіч дае згоду стаць выкладчыкам у Беларускім нацыянальным універсітэце (Вацлаў Іваноўскі хацеў стварыць БНУ і высылаў запрашэнні на пасады выкладчыкаў). Мелі там працаваць найлепшыя сілы Беларусі: Максім Гарэцкі, Яўхім Карскі, Браніслаў Тарашкевіч, Хведар Ільяннік, Міхась Байкоў, Ян Тарасевіч.

Праўдападобна з біяграфіяй дваранія і сына падпалкоўніка царскай арміі ў Савецкую Беларусь Тарасевіч паехаць не мог.

Вядомыя раннія працы кампазітара. Як першы напісаў ён музыку на вершы-рамансы Багдановіча. Гэтыя творы датаваны на пачатак 1919 г., г. зн. паўтара года пасля смерці паэта. Стварыў ён таксама музыку да цыкла „Песні жальбы" Якуба Коласа. Вядома, што па просьбе Беларускага таварыства выдаў ён кніжку, у якой быў сабраны фальклор з ваколіц Бельска-Падляшскага. Кніжка выйшла перад II сусветнай вайной.

Трэба спадзявацца, што інфармацыі аб творчасці і жыцці Яна Тарасевіча ў недалёкай будучыні стануць агульнавядомымі. Нам, жыхарам Беласточчыны, найперш трэба пазнаёміцца з творчасцю славутага земляка. Многія хоры з прыемнасцю папоўнілі б свой рэпертуар чароўнымі кампазіцыямі Яна Тарасевіча.

**Ганна Кандрацюк**

# Фатаграфія паказвае

„Фатаграфія не гаворыць, фатаграфія паказвае", — з такім пераканаём выйшла я 16 верасня з адкрыцця выстаўкі новай беларускай фатаграфіі ў Дзяржаўнай галерэі мастацтва ў Сопаце. Можна было яе паглядзець да 23 верасня. Гэта ўжо трэцяя выстаўка беларускага мастацтва на Гданьшчыне. Называю яе мастацкай, бо на ёй экспанавалася мастацкая фатаграфія. Да выстаўкі выдадзены быў каталог, які можна было купіць па 30 тысяч зл. Сапраўды атрымаўся салідны альбом з працамі 14 фатографаў, з крытычным апісаннем беларускай мастацкай фатаграфіі (на польскай і англійскай мовах) Надзеі Кароткінай і з біяграмамі аўтараў прац.

Ва ўступе Рышард Зяркевіч напісаў: „Sztuka ze Wschodu jest zauważalnie inna, żeby nie powiedzieć odrębna. To, co powiedziałem, odnosi się przede wszystkim w chwili obecnej do sztuki fotografii oraz wszelkiej twórczości niekonwencjonalnej, tzn. nie dotyczy malarstwa, choć i tu zdarzają się wyjątki (...) Jest ona (fotografia — Л.Г.) — i to warto podkreślić — przedmiotem bacznej uwagi krytyków i galerii zachodnich. Nie jesteśmy zatem pierwsi, choć w Polsce nie odbywa się podobna prezentacja".

Як розная можа быць фатаграфія, можна пераканацца параўноўваючы асобныя працы Міхала Гаруса, Віктара Кашніка, Ігара Карзуна, Сяргея Кажамякіна, Галіны Маскалёвай, Уладзіміра Парфянка, Аляксея Паўлоўца, Івана Пятровіча, Ігара Саўчанкі, Андрэя Савіцкага, Віталя Скібіцы, Сяргея Сукавіцына, Уладзіміра Шахлевіча, Аляксандра Угляніцы. Усе фатографы — маладыя, найстарэйшым 40 гадоў. Таму, відаць, і фатаграфіі адлюстроўваюць формы пошукаў спосабаў фатаграфавання. Няма на выстаўцы традыцыйнай фатаграфіі прыроды, архітэктуры, людзей ці палітычных падзеяў. Трэба адчуваць ісціну кожнага здымка, прытым можна інтэрпрэтаваць па-рознаму прадстаўлены вобраз. Можна паназіраць таксама цікавыя тэхнікі, напрыклад, здымкі ў вадзе Аляксандра Угляніцы, ці напластаванне вобразаў у працах Галіны Маскалёвай.

Прысутныя на выстаўцы аўтары крыху нам распавялі пра сябе і свае працы ў прыватных размовах. Выстаўку прывезлі яны без ганарараў. Галерэя забяспечыла ім гасцініцу і харчаванне ў Сопаце. Шкада толькі, што ніводзін з фатографаў не размаўляў на беларускай мове. Вельмі спраўная ў журналісцкай працы рэдактар Анна Сабэцкая першая ў гэтым зарыентавалася. Што ж, добра, што ў такім выпадку фатаграфія паказвае, а не гаворыць.

Надзея Кароткіна ў сваім крытычным нарысе напісала: „Fotografia artystyczna Białorusi jest jeszcze bardzo młoda. Nie przejęła ona ogromnego doświadczenia sztuk plastycznych w ogóle, a fotografii w szczególności. Nie będąc doświadczoną nie jest także obciążona, bowiem w jej „dziewiczości" tkwi czystość, która pozwala fotografikom żyjącym tu, na Białorusi postrzegać świat w szczególny, właściwy im sposób. (...) Fotografia pochodząca z Białorusi raczej „kontempluje" niż „działa": analizuje życie, zagłębiając się w siebie samą. Jest mądra i intelektualna, a także bezbronna i niemal po dziecięcemu szczera. "

**Лена Глагоўская**

# БЕЛАРУСКІ „ДЭКАМЕРОН"

Калі мы бывала ў асяроддзі, якое Алесь Барскі аднойчы назваў Групай „Сустрэчы", разважалі пра беларускую літаратуру, найбольш адмоўнымі з'явамі ў ёй бачыліся нам: недахоп перакладаў сусветных шэдэўраў і абсалютная адсутнасць эротыкі. Увесь эратызм у беларускай літаратуры зводзіўся да вызначаных пад блузкай грудзей маладзіцы і час-часам, калі неўпрыкмет крышку вышэй задзіралася спадніца якой калгасніцы, да фрагмента белых, моцных сцёгнаў. Найбольш смелы ў гэтай галіне тэкст знайшлі мы ў адным з бэгэкатоўскіх „Беларускіх календароў" пачатку 70-х гадоў. Быў гэта анатамічны даведнік, які аб'явіў нам у час ужо універсітэцкай вучобы сябра Яўген Вапа (у дзяцінстве перачытваў ён яго, схаваўшыся на печы).

А паколькі пачыналі мы ўжо быць крышку пісьменнымі, дык амаль на кожнай інтэрнацкай імпрэзцы паяўляліся пастулаты і дэкларацыі аб прыкладзенні намаганняў і т.д. і г.п. Далей дэкларацый мы не пайшлі.

Кніжка, якая здзяйсняе нашы студэнцкія пастулаты была напісана ў Менску. Гэта „Дамавікамэрон"*) Адама Глёбуса. „Дамавікамэрон" аднак, гэта не толькі эротыка. „У 66-ці показках Глёбуса няма нічога анамальнага, вычварнага, спэцыфічнага (парнаграфічнага), — піша *Крыт* у „Нашай Ніве" (н-р 6, 1994), — аўтар не пераходзіць мяжу тыповага. Ён разбурае табу беларускай савецкай літаратуры, але пры гэтым застаецца ў межах прыгожага пісьменства, разам зь героямі й рэаліямі, якія добра вядомыя кожнаму беларускаму пісьменьніку, але пра якія не піша беларуская літаратура".

У „Дэкамероне" Бакачыо ў час чумы збіраюцца дзесяць дамаў і кавалераў з добрых дамоў і на працягу дзесяці дзён забаўляюцца вінам і расказамі незвычайных, раскошных гісторыяў. У абліччы смерці расказчыкі губляюць сорам.

„Дамавікамэрон", паводле „Нашай Ніві", гэта „страчаны сорам" беларускай літаратуры.

Героі Глёбуса жывуць у эпоху развалу імперыі, страты добра вядомых каардынатаў, калі штосьці беспаваротна канчаецца, хаця быццам бы нічога не дзеецца. Адначасова гэта байка, з дамавікамі, вадзянікамі, сутарэннікамі, русалкамі... І што самае прывабнае ў гэтых апавяданнях — зацёртая, расплывістая мяжа між байкай і рэальнасцю, між сном і явою. Дамавік карыстаецца ліфтам, Лясун выступае ў мундзіры палясоўшчыка, Сутарэннік праяўляецца з цемры, калі ў падвале прагарэлі лямпачкі, а Прыбіральнік — вужака з агідным чалавекападобным тварам — гібее ў зрэдку адкрытых прыбіральнях пад абасцанымі дошкамі.

У атмасферы fin de siècle — гуляюць. У Ванітніцы Новы год сустракаюць з эфектамі — „танцы на крэслах, пабіты посуд, сцэны рэўнасьці, хапаньне за нож і спроба гаспадыні выкінуцца з вакна". Пажарнікі ў час дзяжурства карыстаюцца дармовымі паслугамі шчарбатай Лахудры і грэюцца самагонкай на „шэйсят градусаў".

Найчасцей аднак героі „Дамавікамэрона" п'юць каньяк. А ўлюбёная сексуальная пазіцыя — адзаду.

**Мікола Ваўранюк**

P.S. Кніжку можна набыць у „Ніве".

-----------------

**)Адам Глёбус, Дамавікамэрон, Менск-Вільня-Беласток, БАДППР, 1994.*

 

# Спачын Святога Апостала Іаана Багаслова

9 кастрычніка (26.09 па старому стылю) успамінаем смерць (спачын) Святога Апостала і Евангеліста Іаана Багаслова.

Нарадзіўся ён у галілейскай вёсцы Віфсаідзе ў сям'і рыбака Зевядзея і Саламіі — дачкі святога Іосіфа Абручніка. Іх сям'я належала да тых нешматлікіх набожных яўрэйскіх родаў, якія чакалі з'яўлення Месіі.

Спачатку Іаан быў вучнем Святога Іаана Хрысціцеля. З'яўленне Ісуса Хрыста, які аказаўся доўгачаканым Збавіцелем, зрабіла на ім такое вялікае ўражанне, што ён разам з Андрэем, братам Пятра, падаўся за Ім.

Св. Апостал Іаан з часам стаў адным з найбольш даверaных вучняў Хрыста. Быў ён сведкам усіх найважнейшых здарэнняў у жыцці Збавіцеля — ад цуду да Праабражэння на Гары Фавор; бачыў незаконны суд на Ім і Яго распяцце. Быў ён наймалодшым, любімым вучнем Госпада. За яго вялікую, проста палымяную, руплівасць і сілу духа Хрыстос назваў Іаана і ягонага брата Іаакава *Воанергес* — сыны громавы (Марк, 3:17).

Апостал Іаан — адзін з вучняў Хрыста, які з любові да Яго не пабаяўся ісці за Госпадам, калі взялі Яго на суд. Бачыў ён, як прысудзілі Збавіцеля на смерць і быў сведкам Яговых пакутаў на крыжы. Пасля смерці Хрыста, згодна Яго волі, ён апекаваўся Багародзіцай. Да Яе Успення ён жыў у Ерусаліме, дзе разам з Пятром і Іаакавам прапаведавалі слова Божае. Потым перанёсся ён у Эфес (цяпер гэта горад у паўднёва-заходняй Турцыі) і адгэтуль апекаваўся хрысціянскімі супольнасцямі — Цэрквамі ва ўсёй Малой Азіі. Пры імператары Даміцыяне Іаан быў арыштаваны і перавезены ў Рым, дзе падвяргаўся пакутам за Хрыста. Ганіцелі ведалі аб яго духовай сіле і ўплыве на хрысціян і таму спрабавалі атруціць яго, але безвынікова. Потым укінулі яго ў кацёл з кіпячым алеем. Гасподзь не пакінуў, аднак, без Сваёй дапамогі вернага слугу. Спробы загубіць вялікага вучня Збавіцеля аказаліся беспасьпяховымі і тады саслалі яго на востраў Патмас. Там ён наварнуў жыхароў вострава на хрысціянства. Самым важным здарэннем у час пабыўкі Іаана ў ссылцы было, аднак, атрыманне ад Бога ласкі вялікага адкрыцця аб будучых лёсах Царквы Хрыстовай і свету перад яго канцом. Спісаў ён гэта ў Апакаліпсісе (гэтае слова абазначае *адкрыццё*). Пасля вяртання са ссылкі Святы Апостал



Іаан пасяліўся ў Эфесе. Апошнія гады яго жыцця былі надта аскетычнымі — харчаваўся ён хлебам і вадой, не стрыг валасоў і насіў простую палатняную вопратку. Да апошніх дзён жыцця былі пры ім вучні, а сярод іх — самы верны слуга Прохар, які пачаткова быў вучнем Апостала Пятра і адным з сямі дыяканаў Апостальскай Царквы. Потым стаў ён вучнем Апостала Іаана і таварышам яго долі і нядолі, неадступным спадарожнікам.

Святы Іаан Багаслоў памёр на пачатку II стагоддзя пасля нараджэння Хрыста ў глыбокай старасці, калі яму было за сто гадоў. Быў ён адзіным з дванаццаці апосталаў, які памёр натуральнай смерцю. Называюць яго апосталам любові, паколькі хрысціянская любоў была галоўнай і характэрнай рысай яго жыцця і навукі. Святая Царква ўсхваляе яго як „нявінніка", „сапраўднага прыяцеля і любімца Настаўніка Хрыста", „начальніка Багаслоўя", „праваслаўных догматаў збавіцеля". Святы Апостал Іаан апрача Апакаліпсіса напісаў Евангелле і тры Саборныя пасланні. За сваю навуку аб прадвечным быцці Бога Слова — Сына Божага атрымаў ён званне Багаслова.

Трэба таксама ведаць, што даты імянінаў (па-царкоўнаму гэта дні Ангела), якія адзначаем — гэта ў пераважнай большасці даты смерці, або інакш спачыну, нашых нябесных заступнікаў. У гэтыя дні Царква ўшаноўвае памяць сваіх святых. Тады імяніны не павінны быць толькі днямі гульняў і радасці ў свецкім стылі, але павінны стаць перш за ўсё днямі памяці аб сваіх заступніках і малітвы да іх.

С.Н.

# Славакі і чэхі ў Польшчы

У Польшчы жыве каля 25 тысяч чэхаў і славакаў, галоўным чынам на Новасандэччыне і ў Верхняй Сілезіі. Як выглядае сітуацыя чэхаў, можна меркаваць на прыкладзе Зэлёва ў Пятркоўскім ваяводстве. У мясцовасці гэтай жыве каля 300 чалавек чэшскай нацыянальнасці. Пасяліліся яны тут на пачатку XIX стагоддзя і жылося ім нядрэнна аж да трыццатых гадоў нашага стагоддзя. У выніку нарастаючага польскага нацыяналізму, большасць чэхаў вымушана была вярнуцца на радзіму сваіх продкаў. І ў наш час сітуацыя чэхаў, якія асталіся, невясёлая: іх культурнае жыццё практычна не існуе з прычыны непрыхільных адносін мясцовай гмінnай рады і войта. Падобна выглядае сітуацыя славакаў на Спішы і Араве, дзе да іх патрэб адносяцца дрэнна не толькі гмінныя ўлады, але і ксяндзы. Адзін з іх сказаў нават, што Багародзіца не разумее малітвы на славацкай мове, а ў касцёле на Спішы былі знішчаны славацкія надпісы пад старадаўнімі іконамі мукі Гасподняй. Ідзе таксама барацьба за славацкія дамы культуры: гмінныя ўлады абкладаюць іх высокай арэнднай платай, на якую славакі не маюць грошай. Дамагаюцца славакі, каб Міністэрства фінансаў пагасіла іхнюю задоўжанасць і вызваліла ад падаткаў Таварыства чэхаў і славакаў, якое вядзе культурную дзейнасць. Складаная сітуацыя і з навучаннем славацкай мове: не хапае настаўнікаў. Да таго ж Міністэрства нацыянальнай адукацыі спыніла стыпендыі для студэнтаў, якія рыхтаваліся настаўнічаць у славацкіх школах. Цяпер высокія міністэрскія чыноўнікі на захады за дапамогай адказваюць, што цэнтральнае кіраванне скончылася і ні яны, ні іх ваяводскія падуладныя ні пры чым. Таварыства чэхаў і славакаў атрымала ў 1990 годзе вялікія грошы на культурную дзейнасць, за якія купілі дом у цэнтры Кракава. Абсталявалі там друкарню, у якой друкуюць м. інш. часопіс „Život". З 1991 года Міністэрства культуры перастала фінансаваць грамадска-культурныя аргані-зацыі, і іх дзейнасць, культурная і гаспадарчая, залежыць цяпер ад актыўнасці іхніх членаў.

**Андрэй Гаўрылюк**




### Czy w Wieluniu nie ma prawosławnych?

Niespokojne serce człowieka, dopóki nie spocznie w Bogu, tak powiedział św. Augustyn. I moje serce też jest niespokojne, ponieważ żyję na tym świecie.

Piszę te słowa jako zwykły człowiek, obywatel tego Kraju całkiem prywatnie. Z największym szacunkiem dla władzy duchownej i świeckiej.

Do miasta Wielunia przyjechałem pierwszy raz w 1949 r., żyłem tam 9 lat i potem często je odwiedzam i podziwiam, ale nie wszystko. Wieluń — stary gród królewski, prawa miejskie ma od 1283 r. Obecnie miasto liczy ponad 30 000 mieszkańców. Wieluń jest pełen zabytków przeszłości: mury miejskie, zespoły klasztorne z kościołami. Do nich należą: obecna kolegiata, regotyzowana z dawnych klasztorów (augustianów i misjonarzy Św. Rodziny), zespół budowli pijarów z kościołem św. Józefa, kościół pobernardyński, obecnie wyznania ewangelickiego, w klasztorze muzeum, kościół popauliński, obecnie ss. bernardynek6. zespół zabudowań franciszkanów, naprzeciw klasztoru synagoga zamieniona na magazyn i ból mego serca: piękna cerkiew w małym miejskim parku naprzeciw pałacu królewskiego, wybudowana przy ul. Krakowskie Przedmieście i narożnik Panieńskiej (dawniej), w parku. Cerkiew była przeznaczona dla celów liturgicznych. Ręce świętokradzkie PRL-owców oskubywały ją ze wszystkich stron, zniszczyły prezbiterium (gdzie był ikonostas), oskubały boki, wieże. Stoi biedaczka w parku jak wyrzut sumienia dla obywateli. Czy w Wieluniu już brak wyznawców Prawosławia? Gdyby nawet, to może być ta cerkiew odnowiona jako zabytek przeszłości. Powinna wrócić znowu dla chwalenia Pana! Wznosi się nowe budowle i świątynie. Można pobudować też dom kultury w mieście. Dlaczego cerkiew stoi jak obdarta, uboga wdowa, daremnie czekając na jałmużnę od tych, którzy mogą ją dać? A przecież śpiewano w niej Hosannę Przedwiecznemu!

Zaznaczam uprzejmie, że moje zapytanie jest całkowicie prywatne, po prostu chcę wiedzieć coś na temat tego zabytku.

**Bronisław Kawecki**
Katowice

# Святатацтва ў цягніку

Кантрабанду 12 іконаў перакрылі 12 верасня г.г. польскія пагранічнікі ў Браневе (Эльблангскае ваяводства). Іконы былі схаваны пад вагонамі і ў багажах пад сядзеннямі ў цягніку з Калінінграда ў Гданьск. Да знаходкі ніхто з пасажыраў не прызнаўся. Іконы, якіх вартасць невядомая, перададзены ў Мытную ўправу ў Гданьску; калі яны не крадзены, тады апынуцца ў адным з польскіх музеяў. Гэта ўжо другі ў гэтым годзе выпадак перакрыцця кантрабанды іконаў у Браневе; раней выяўлена ікону вартасцю ў 12 мільёнаў злотых.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ІКОНЫ

### Частка V

Адносіны беларусаў з усходняй Беласточчыны да іконы адзначаюцца вялікай разнароднасцю. Сёння прагну прывесці выказванне на гэтую тэму Язэпа Казберука (1895—1969), жыхара вёскі Бандары. Язэп Казбярук быў вельмі добрым фельчэрам і здабыў шырокую вядомасць як мясцовы неафіцыйны лекар. Быў ён чалавекам выключнай працавітасці. Усё жыццё чытаў прынамсі да першай гадзіны ночы, а ў шэсць быў ужо на нагах. Чытаў не толькі медыцынскую літаратуру, але і мастацкую. Цікавіўся беларускім рухам і прымаў удзел у першым з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Быў на працягу многіх гадоў гарачым староннікам Расіі і Савецкага Саюза. Пасля вайны, калі вярнуўся з Англіі яго брат Зміцер Казбярук, які служыў у Арміі Андэрса, і расказаў яму аб страшэнных варунках у савецкіх шахтах, у якія ён трапіў як салдат польскай арміі ў 1939 годзе, Язэп раптоўна пераmяніў свае адносіны да Савецкага Саюза. Да канца жыцця горача даказваў ён вышэйшасць амерыканскай і заходніх сістэм над савецкай. Зміцер і Язэп Казберукі адыгралі ў маім жыцці пэўную ролю. Калі я ў 1951 годзе намерваўся ехаць на навуку ў Маскоўскі універсітэт, яны горача пераконвалі мяне, каб я гэтага не рабіў і вучыўся ў Польшчы, а не ў СССР. Так яно ў канцы канцоў і сталася.

Я з Казберуком спатыкаўся вельмі часта і размовы нашы не раз мелі вострыя канфліктны характар. У адрозненні ад іншых жыхароў Бандароў, Язэп Казбярук паслугоўваўся складанай стылістыкай і багатай лексікай. Карыстаўся ён такімі тэрмінамі як: міраж, традыцыя, сімвал, аб'ектыўны, суб'ектыўны. Здаралася, што размаўляў чыста па-руску, аднак часта карыстаўся паслядоўна беларускай гутаркай.

Я. Казбярук цікавіўся таксама філасофіяй і прасіў мяне прывозіць яму з Варшавы філасофскія рускія кнігі. Добра разбіраўся ў літаратурнай крытыцы. Ведаў літаратуразнаўчыя работы Пісарава і Бялінскага. Высока цаніў творчасць Дастаеўскага і Талстога, абыякава адносіўся да Чэхава і Горкага. Першага называў скалазубам, а другога — палітыкам.

На тэму ікон правёў я з ім размову ў 1965 годзе. І сёння прагну перадаць змест выказвання гэтага цікавага чалавека:

„Я не веру, што свет і чалавек былі створаны ў цёнгу шасці дзён. Гэто легенда. І не праўда, што свет сушчэствуе пару тысяч лет. Свет сушчэствуе мільёны, а можэ і мільярды лет. Але я не згаджаюся таксама з савецкімі вучонымі і палітыкамі, каторы ўвогуле адкідают ідэю Бога. Няма самненіяў, што сушчествуе высшая сіла, характар каторае незразумелы да канца чалавеку. Чы загадка гэтае высшае сілы будзе калісь выяснена, гэтаго я не знаю, але думаю, што не будзе да канца выяснена ніколі. Зрэштаю, ідэя Бога патрэбна чалавеку, асобенно простаму. Чалавек павінен кагось баяцца. Калі не будзе баяцца, то яго склоннасць да зла будзе намнога большая. Адзін з французскіх філасафаў сказаў, што калі б Бога не было, то трэба было б яго стварыць і трэба сказаць, што быў ён праў. Руская рэвалюцыя, катору я бачыў сваімі вачыма, бо быў у Расії ад 1915 да 1922 року, паказала, да чаго здольны так званы вызвалены і пазбаўлены Бога чалавек. Былі там такія рэчы, якія ўспамінаюцца сягодня як кашмарны сон. І таму, ведлуг мяне, патрэбны народу такі чы іншы пугач, каторы будзе паўстрымоўваць чалавечу злосць, ненавісць, кроважаднасць, чалавечае варварство. І таму не мае большага значэння чы Бог аб'ектыўна ест чы яго нема. Істота справы заключаецца ў тым, каб чалавек ведаў, што сушчэствуе высшая сіла, катора стаіт понад чалавекам і што гэта сіла можа караць злы чалавечы паступак і ўзнагароджваць чалавечыя паступкі. У такім аспекце ідэя раю і пекла як нагарод і кары для чалавека пасля яго смерці поўнасцю апраўдана".

**Алесь Барскі**

 

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

**(5)**

**Адкуль узяліся назвы вёсак?**

**Баброўнікі** — назва службовая, першапачаткова абазначала людзей, якія сцерaглі бабpoў вa ўладаннях паноў. Вёска размяшчаецца на левым беразе ракі Свіслачы (прыток Нёмана), на ўскраіне Кнышынска-Беластоцкай пушчы. Сяло цягнецца ўздоўж вуліцы і распаложана яно ля дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь. Дакументы пацвярджаюць існаванне гэтага пасялення ў XVI стагоддзі. З назвы вынікае, што пражывалі ў ёй баброўнікі г. зн. спецыяльныя наглядчыкі за бабрамі, якія, відаць, вадзіліся тут у значнай колькасці. У сярэднявеччы высока цаніліся бабровыя футры, а прадаваліся яны на кірмашах. Бабровыя футры, шапкі, адзежу, абшытую бабровай скуркай, насілі самыя заможныя людзі.

Не менш каштоўны быў і бабровы струмень, які тады лічылі лякарствам ад многіх хваробаў. Таму пануючыя надта пільна дбалі пра свае бабровыя гнёзды. Сялібы баброўнікаў звычайна знаходзіліся ў самых глухіх і недаступных лясных нетрах, а іх занятак вымагаў глыбокага ведання нораваў ды паводзін бабpoў і іхніх ворагаў.

Баброўнікі доўгі час знаходзіліся ў прыгоне ў паноў Нямцэвічаў з маёнтка Цецяроўка (быў гэта старажытны магнацкі род). У міжваенны перыяд вёска (да вайны было ў ёй звыш ста гаспадарак і каля 500 жыхароў) вылучалася сваёй грамадскай і культурна-асветнай дзейнасцю. Сяляне ставілі беларускія п'есы, арганізавалі даклады і лекцыі.

У час гітлераўскай акупацыі бабраўнічане ўвесь час утрымлівалі цесную сувязь з партызанамі, самі ўдзельнічалі ў непасрэднай партызанскай барацьбе супраць фашыстаў, ратавалі ўцякаючых з палону савецкіх салдат і афіцэраў.

Пасля вызвалення ў вёсцы запанавала зусім іншае жыццё. Тутэйшыя людзі пачалі жыць па-новаму. Шмат хто з-за малазямелля падаўся ў горад працаваць, у школы рушыла моладзь. Раптоўна стала змяншацца колькасць насельніцтва.

**Белявічы** — назва вёскі радавая ад асабовай *Белевіч*. Калісьці належала яна да Ваўпянскай воласці. У пісьмовым дакуменце значыцца ў 1567 годзе. Хто даў пачатак Белявічам — сяляне ці баяры — сёння цяжка ўстанавіць. Магчыма, што ў Белявічах сядзелі вялікакняжацкія баяры путныя, абавязкам якіх было служыць пасыльнымі, перавозіць грузы, ахоўваць вялікага князя, яго прыбліжаных і чыноўнікаў у час падарожжа, даглядаць дарогі і г.д. Такое меркаванне знаходзіць падтрымку і ў тым, што гэтае сяло стаяла каля старажытнага Свіслацкага гасцінца, які злучаў Гарадок са Свіслаччу. Пасля валочнай памеры была тут вёска-вуліцоўка.

У часе гітлераўскай акупацыі шмат хто ўтрымоўваў сувязь і дапамагаў савецкім партызанам, якія разгортвалі актыўную дзейнасць у гэтых ваколіцах.

Цяпер Белявічы — гэта каля трох дзесяткаў хутароў, што рассеяны ў двух-трох кіламетрах на ўсход ад Гарадка, паміж лесам Дубова на паўночным-усходзе і лугамі ва ўрочышчы Стаі над рэчкаю Супрасльо на паўднёвым захадзе. Жывуць тут старыя сялянскія роды: Астравецкія, Вільдовічы, Госцікі, Дарашкевічы, Кахановічы, Лапаты, Лісоўскія, Марцінчыкі, Навойчыкі, Тарасевічы, Трахімчыкі, Храноўскія.

**Валілы** — назва радавая ад асабовай *Валіла*. Вёска Валілы „сядзіць" на 32 „участках", кожны „участак" складаецца з 24 „дзесяцін", гэта разам каля 800 гектараў. У ёй убачыце рэч незвычайную: аграмадны валун — даўжынёй метраў сем, шырынёй — да пяці і таўшчынёй — больш двух! Пра гэты дзівосны валун ёсць легенда.

Мікалай Гайдук, аўтар друкаванага раней на старонках „Нівы" „Краязнаўчага слоўніка", у 37 нумары беларускага тыднёвіка ад 1979 года пісаў: „...Нейкае водгулле сувязі назвы вёскі з дзівосным валуном знайсці можна. Гісторыкі лічаць, што землі над Супраслю яшчэ ў дагістарычныя часы сталі мяжой паміж славянскімі і балтыйскімі плямёнамі. Узаемнае ўздзеянне іх тут працягвалася доўгія стагоддзі, а доказ гэтаму якраз назва „Валілы", бо яна бярэ свой пачатак ад „уоліс" — у адной з балтыйскіх моваў, а іменна: у латышскай гэта значыць: „вялікі камень"! Гэта абазначала б, што існуюць дзве версіі на паходжанне назвы гэтага сяла.

Сама вёска з'яўляецца вынікам намнога пазнейшай, бо ўжо ў першай палове XVI стагоддзя, гаспадарчай дзейнасці тут ваяводы навагрудскага Аляксандра Хадкевіча, да якога належалі Гарадок, Заблудаў, Харошча і аграмадныя абшары пушчы і зямель, што прасціраліся паміж гэтымі мясцовасцямі. Трэба меркаваць, што ў Валілах ужо тады жылі звычайныя „цяглыя" сяляне (яны хадзілі на паншчыну ў суседні фальварак Валілы і на замак у Гарадок) уперамешку з асочнікамі (іх асноўным абавязкам было ахоўваць паўночна-ўсходнюю ўскраіну Блудаўскай пушчы, якая тут па рацэ Супраслі, межавала з Гродзенскай пушчай. Старымі прозвішчамі ў Валілах лічацца: Абрамовіч, Адамчык, Грыцук, Грэсь, Дарашкевіч, Дзянісік, Дзярманскі, Дробат, Завадскі, Заяц, Зрайкоўскі, Лавіцкі, Лісоўскі, Лясоцкі, Малашкевіч, Місеюк, Мялеша, Мялешка, Рамушэўскі, Савіцкі, Самойлік, Сітчук, Тарасевіч, Хлябіч,Ціханоўскі.

Многія з іх на самай справе старажытныя, напрыклад, прозвішча Хлябіч вельмі часта сустракаецца ў дакументах XVI стагоддзя, а прозвішча Дарашкевіч — нават у граматах з канца XV стагоддзя.

У 1784 годзе Валілы былі вялікай вёскай і, як упамінаецца ў дакуменце, з карчмой.

Валілаўцы ўмелі пастаяць за сваю свабоду. Яны прыхільна аднесліся да паўстання 1863 года. Іменна тут шукаў прыстанішча атрад паўстанцаў на чале з Ануфрыем Духінскім. Яму давялося пад самай вёскай уступіць 20 красавіка 1863 г. у няроўны бой з царскімі войскамі. Паўстанцы пацярпелі паражэнне, рассыпаліся па навакольных лясах, але хутка сабраліся ў новы атрад. Да яго далучылася значная колькасць юнакоў з тутэйшых вёсак. Найбольш баявымі ў той час былі сяляне ды рабочыя фабрыкі ў суседніх Пясчаніках і ў Гарадку.

Змагаліся валілаўцы і ў час гітлераўскай акупацыі. Партызанскі атрад паўстаў у тутэйшым лесе ў некалькі дзён пасля прыходу сюды немцаў, у канцы чэрвеня 1941 года. За дапамогу партызанам немцы расстралялі Канстанціна Дзянісіка і Пятра Мялешку. Тадышняга солтыса Пятра Хлябіча за тое, што быў ён партызанскім сувязным, фашысты закатавалі на вачах усяе вёскі, сагнаўшы жыхароў на школьны пляц.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# ХВАРОБА

Прыбегла маці пра сына пытаці, бо пайшоў быў на работу зранку, а яго дасюль няма. Напэўна, у карчме ён у Шчупака. Пры дарозе тая карчма стаіць, кожны ведае, што там Шчупак прадае людзам. Выйшла я за ёю, праветрыцца, пасля таго, як у гаспадарцы ўправілася. Чую, наперадзе нас хтосьці ідзе, аж яго закідае. Ага, гэта ейны Бора валачэцца, ледзь ногі цягне. Падышла я да іх, кажу: „Што ты, Бора, так многа зарабляеш, што на гарэлку грошы выкідаеш?" Як не скочыць малады сусед да мяне як рысь, схапіў за блузку: „Пільнуй сваіх сыноў, а не будзеш на пенсіі па гарадах раз'язджацца, ты к... старая!" І крычыць, і скача перада мною, мала не плача, у такой злосці! І ўцячы мне няма як, бо моцна за мяне ўчапіўся. Пачала яго маці прасіць: „Борачка, пусці цётку Іду! Не чапай яе, ці яна табе кепская хоча? І яна перапмаецца, што ты такі..." „Што, я табе кепскі сын? Усе тут такія, няма за мяне лепшых!" Маці аж на калені ўпала і пачала яго жагнаць крыжам і праклінаць Шчупакову карчму. Колькі праз іх бяды, праз тыя гарэлку ды піва, колькі пакут мужарам, маладым жонкам і дзецям! Чалавек маральна ўмірае, хоць, здаецца, жывы яшчэ. Божа, вырві нашых людзей з гэтага балота!

Людзі мілыя, давайце выганім з нашай вёскі чорта, гару праклятую, думаю. Але дзе ж дасі яму рады, калі ён ужо стагоддзямі ўчапіўся беларусу ў карак!

Прыйшла я дадому, села за стол, узяла пяро, кажу сынам: „Я так усхвалявалася, што аж у „Ніву" напішу". А яны давай смяяцца: „Ты што, на розум захварэла?! Ты што на свеце хочаш змяніць? Не такія разумнікі за справы браліся. А пішы, пішы, з нас людзі смяяцца будуць, што маці на старасць у карэспандэнты пайшла!".

**ІДА**

# З лістоў Адаму

**Найлепшы выхад — „драпануць" за мяжу?**

Міра Лукша ў сваёй невыдуманай гісторыі расказала нам пра драму Адама („Свае дзеці, свой дом" „Ніва" н-р 35 ад 28.08.1994 г.). Хлопец працавіты, добры, „на месцы", як кажуць, даў сябе абдурыць распуснай і неадказнай жанчыне. У нас сямейныя суды стаяць на баку „пакрыўджаных" жанчын, калі нават яны вінаваты ў развале сям'і. Адам нічога не высудзіць у судзе, які стаіць за двума лодырамі, для якіх нічога не значыць людская годнасць і справядлівасць. У нас была падобная гісторыя. Пажаніліся маладыя людзі. Муж — добры чалавек, выдатны спецыяліст, „залатая ручка", як у нас гавораць на такіх. Пабудаваў быў ён з бацькамі ў горадзе прыгожы двухпаверховы дом. Жылі добра, толькі, вось, жонка пакахала іншага, і мужа вытурыла з хаты. Суд быў на баку апякункі хатняга ачага, маткі дзецям. Куды ж было ёй ісці з хаты? Колькі бацькі і муж не судзіліся — урэшце пакінулі яе ў новым доме, а муж не стрымаў, паехаў за мяжу. Я не пахваляю эміграцыю, але тут выйсця не было. І жыве там хлопец прыпяваючы. Прыязджае да бацькоў, дапамагае і сваім дзецям, а яны яго любяць і паважаюць. І думаю, што яму цяпер пляваць на прысуды нейкіх польскіх судоў. Ён — чалавек вольны. Ведаю яго бацьку, вельмі добрага і сумленнага чалавека, а ён мне паўтарае: „Коля, як і пры „камуне", так і сёння — намі кіруе адна банда". І найлепш ад яе ўцячы, калі хто можа. І сёння думаю, што Адаму найлепш было б недзе на пару гадоў знікнуць за мяжой, каб супакоіцца, падлячыць нервы, і на свае справы глянуць збоку. Ён добры працаўнік, працу знойдзе, часу не змарнуе. Бо тут ягоная жонка і ён ад яе не мае ніякага ўжо шчасця... з дапамогай „справядлівасці" яго даканаюць. Дзеці пра яго не забудуць, так як і ён пра іх, падрастуць, і ўсё добра зразумеюць.

**Мікалай Панфілюк**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 344. Уладзімір Юзвюк (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 4 345. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 300.000 зл. |
| 4 346. Браніслаў Даніловіч (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 347. Надзея Кудасаў (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 348. Людміла Бушка (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 4 349. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Міхалове | — 201.700 зл. |
| 4 350. Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстыну ў Гарадку | — 451.150 зл. |
| 4 351. Ян Палоцкі (Міхалова) | — 100.000 зл. |
| 4 352. Уладзімір Клімюк (Плянта) | — 100.000 зл. |
| 4 353. Сцяпан Гжэсь (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 4 354. Юстын Пракаповіч (Беласток) | — 100.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ НАЗВА „ДРАГІЧЫН"?

Хто быў заснавальнікам Драгічына — цяжка вызначыць. Выказванні гісторыкаў ёсць розныя. Гучанне назвы мясцовасці рускае і, мабыць, вядзе сваю радаслоўную ад імя Драгіта, у далейшым перайначанае на Драгічын. (У Малым Атласе Свету, надрукаваным у 1648 годзе ў Амстэрдаме, назва колішняга горада выступае як Драгічын).

Некаторыя прыпісваюць заснаванне горада князю Яраславу Уладзіміравічу. Усё аднак губляецца ў імгле недаследаванай гісторыі. Першыя ўпамінанні паходзяць з рускіх хронік 1038, 1061 і 1148 гадоў. У XII і XIII стагоддзях горад быў сталіцай Драгіцкага княства. У 1251 годзе Даніла, сын Рамана, заваёўвае Драгічын (старажытная назва Дарагічын) і тытулуе сябе „Kijoviensis et Drohiciensis dux" пасля перамогі над яцвягамі супольна з рыцарствам рускіх князёў. Атрымаў ён карону ад папы рымскага Інакенція IV і быў каранаваны 8 жніўня 1254 года ў Драгічыне як адзіны ў гісторыі кароль Русі.

У канцы XIII стагоддзя Драгічын пераходзіць ва ўладанне Літвы, а ў 1569 годзе — да Кароны. Быў ён — так называюць яго гісторыкі — „горадам сварак, калатнечы і войнаў". Шмат разоў быў разбураны падчас баёў: у 1241 годзе дайшлі сюды татары і ў 1380 годзе вельмі быў знішчаны крыжаносцамі.

**Янка Ляўкоўскі**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніўся цікавы сон. Быццам я на вёсцы, у роднай хаце. Бачу бацьку і маці. І раптам бачу люстэрка. Я падыходжу да яго, прыглядаюся, папраўляю гальштук. Што гэта такое?

Васіль

Часта мне сніцца, што я таплюся. І вось тапіўся я і на гэты раз, а пасля ўжо я быў як бы збоку, у якасці наглядальніка. Бачу, што я ўтапіўся. Здаецца, гэты сон кепскі...

Алег

Астроне, мне прыснілася мая цётка, бацькава сястра. Быццам сядзіць яна на крэсле, а ёй нейкія лекары адразаюць руку. Проста адпілоўваюць пілкай.

Ну, і падумала я, што можа памрэ яе нявестка, бо яна цяжка хворая. Але ж уявi сабе, што здарылася. Згарэла бацькава хатка, якая адзінока стаяла ў той жа вёсцы, што жыве і цётка. Маці мая памерла ўжо даўно, а год таму пайшоў за ёю і бацька. Ці мог мой сон прадвяшчаць гэта здарэнне?

Анюта

Васіль! Твой сон кепскі. Будуць у цябе нейкія клопаты (бацька і маці), цяжкасці ў справах. А ўсё гэта вынікне з-за фальшывых людзей, якія прытвараюцца тваімі сябрамі (люстэрка).

Алег! І Твае сны сведчаць аб тым, што ты перажываеш вялікія цяжкасці. Тое, што ты пасля ўжо глядзеў на сябе як на некага іншага, ды тапіўся ўжо быццам бы і не ты, дазваляе меркаваць, што пазбудзешся небяспекі.

Анюта! Твой сон сапраўды прадвяшчаў нейкую страту, небяспеку. Дом жа быў бацькаў, а цётка — яго сястра, вось і прысніўся табе гэты сон на пажар.

АСТРОН

# ІДЗЕ ВОСЕНЬ

Пасля гарачага лета набліжаецца восень. Апусцелі гнёзды буслоў, прапалі крыклівыя стрыжы. У лесе зацвілі верасы. Для пчол, гэта апошні шанц павялічыць свае зімовыя запасы. У лясах і агародах паяўляюцца сапраўдныя матылі, між іншым, русалкі, адміралы і жалобніцы. З'яўленне апошніх сведчыць, што часць вусеняў перажыла чэрвеньскае апырскванне. Жалобніцы, якія перазімуюць, будуць разам з лімоннiцамі першымі вясеннімі матылямі. Азёры, якія летам поўніліся лодкамі, байдаркамі і яхтамі, пусцеюць, чым вельмі цешацца птушкі, якія жывуць пры гэтых вадаёмах. Збіраюцца да вылету ў цёплыя краіны жураўлі, якія невялікімі групамі кормяцца на неўзараных пожнях. На дрэвах паяўляюцца жоўтыя і карычневыя лісты — вынік нядаўняй засухі. Спадзявацца трэба хуткага прыходу восені.

Андрэй Гаўрылюк

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ
**(10)**

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33-36, 38-40 н-рах)*

Прыпеўкам, якія запамятала Надзея Руско з Белавежы, здаецца, няма канца. Вось, наступныя!

**26**

Падарыў мне малодчык
чырвоные чабаткі.
Захачу — палюб'ю!
Захачу — разлюб'ю!

**27**

Бадай тое сено
асакою село!
Ой, дзе мае сэрдэнятко
вачэраці село?

**28**

Чэрэз сад-віноград
каціласа бочка,
а мне маці прыказала,
гуляй мая дочка.
Як гуляла, так гуляла,
так гуляла вэльмі.
Зачыніла гулянячко
дубовымі дзьвэрмі!

**29**

Ой, коб я мела
салав'ёвы очы,
паліцела б да мілого
шчокожнае ночы!

**30**

Ой, хадзіў я на базар,
купіў парасятко.
Всю дарогу цалаваў,
думоў дзяўчанятко!

Запісаў ПЁТР БАЙКО

# Віраванка




1. драпежная прэснаводная рыба, 2. невялікі друк, 3. адтэрміноўка, 4. тое, што трэба выканаць, вырашыць 5. паганы чалавек або жывёліна, 6. папулярны метал, 7. падраздзяленне, 8. птушынае жыллё, 9. імя касманаўта Цітова, 10. палітыка, якая апраўдвае няроўнасць рас, 11. нямецкі горад над Балтыкай, 12. апавяданне.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 н-ра:**

**Гарызантальна:** касьба, саліст, Рыміні, рака, амін, стратастат, вера, арба, размах, рацыён, Енісей.

**Вертыкальна:** камора, Бары, сані, Сталін, мілітарызм, Кастра, аматар, Венера, Бамбей, раён, Ахен.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Сазановіч з Навінаў-Вялікіх і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.**

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 6. Бабко і Шызахрэн

— Вось і маеце, любасныя мае, — застракатаў Праваднік, — сумнавядомы калідор чацвёртага паверха. Самае жудаснае ва ўсёй Зоне і Любагорску месца, „Бейрут". А вось і вашы дзверы, і сам Сімпсан Бульдозер — карцёжныя марафоны да раніцы, скрынка піва пад столікам і гэтак далей...

Галава гудзела ад перапою. Непрадугледжаная акалічнасць у выглядзе падмочаных штаноў, на шчасце, нікому не прыдарылася. Я раз гляну на Бабко і без слоў зразумеў, што з ім адбываецца такое ж. Цалкам не размаўлялі, нават па-беларуску. Бабко вёз матэрыял у „Прытомністасць", а я надумаўся быў правесці яго на вакзал — калі праз хвілін пару мне адправіцца цягнік у Любагорск, я прадчуў, што не стрываю сам-насам з галоўнымі праблемамі (ад галавы) і забраўся з ім...

На інтэрнацкі пакой Сімпсана, так званы „Бейрут", складалася наўсцяж адкрытае вакно, дзве заўсёдна разбэрсаныя пасцелі, карцёжны столік з кучай запацелага абутку пад ім ды такой жа кучай смецця і іншай непатрэбшчыны на ім. На гэтай апошняй кучы прымасціўся галубок, які ўляцеў праз наўсцяж адкрытае акно. Галубок паглядзеў на нас, прыбылых, а затым выпусціў з-пад хваста патрэбу.

Сімпсан Бульдозер прывітаў нас больш стрымана. „Якаааая халера вас сюды прынесла". Бабко сеў на адзінае свабоднае крэсла, а я набожна ўсадзіўся на край заўсёдна расцяганай пасцелі.

— Здалася б якая попельніца, калі дазволіш закурыць, — Сімпсан Бульдозер заклапочана разгляднуўся і ўказаў на вечна залоеную падлогу.

Хтосьці далікатна пастукаў у дзверы.

— Данууська! — любасна раскінуў абедзьве мядзведзевы лапы Сімпсан. На вечна залоенай падлозе дробным крокам прайшла ў агідную камеру Русалка на даўжэзных нагах. Мела яна да Сімпсана справу. Пасядзеўшы якую хвілю, а таксама заказаўшыся ў Сімпсана Бульдозера на вечар, схадзіў я з Бабко ў „Гоні" — даставіць матэрыял у „Прытомністасць".

У „Гонях" закончылася нам усяго памяркоўным поспехам, бо галоўны прабываў у пастаянным водпуску, а сярод супрацоўнікаў разбухала полымя барацьбы за спадчыну. Няспешна і ў не найлепшым настроі вярталіся мы ў „Бейрут". Па дарозе ўхапілі два бутлі „замбараарэзу" — мусова было адвесці душу.

У Сімпсана не было ўжо ні Русалкі на даўжэзных нагах, ні адпаведнага для „замбараарэзу" посуду. Бульдозер схадзіў на тым жа чацвёртым паверсе да знаёмага хіміка і адтуль прынёс патрэбныя пасудзіны. Па дарозе падчапіў яшчэ Алю Або Касю.

Мерапрыемства мела стандартны і спакойны наогул ход. Спачатку ўсе любаваліся тым, што можам, як ніколі, пароўну наліваць. Бабко верхаводзіў у тостах.

— Няхай жыве... — тут ён задумаўся — ...Замбара!

Пасля пайшло піва, бутэлькі з-пад якога ўспыхнулі дзесьці за наўсцяж адкрытым акном. Ніхто нават не браўся за імі скакаць. На гэты водгалас заглянула сяброўка Алі Або Касі і вывалакла з сабою Бульдозера. Чвэрцьпрытомны Бабко зваліўся спінаю на заўсёдна расцяганую пасцель, дзе, нядзельны да эратычнага ўздыму, засынаў, захліствваючыся, ні то сліпаю, ні то матамі. А ў другой расцяганай пасцелі агалілася Аля Або Кася і „рабі са мною што хочаш".

Калі я ачнуўся, было далёка за поўнач. Бабко курыў цыгарэту.

— Не ведаю, у чым справа. Ніхто не параграцаў сёння ў „Гонях" з дастаўленай сатыры.

— Пухіры паволі засыхаюць. У пэўным сэнсе гэта адна хеўра. Але мы да яе не належым.

Бабко не здаровілася, ён падышоў да наўсцяж адкрытага акна і перавесіўся праз яго. Ноч была зорнай і зябкай. Аля Або Кася з дакорам да нашай размовы адвярнулася голым задам і спала.

— Трэба рабіць, як усе. Праз якіх трыццаць гадоў пачнаць выкрэслівць думкі трыццацігадовай даўнасці. Можа будзе ім цана.

— Ведаю, што будзе першай, калі сам не выцягнуся да таго часу. Згадаю сабе, што трапіўся мне адзін дзень, калі я нагаварыўся ўдоваль па-беларуску.

— *Ніхалеры*, Шызахрэн, не разумееш ты з гэтай *ліцературы*, — прамармытаў Бабко між адным а другім спускам метэарытаў.

* * *

Ад рэдактара „Запісаў": У гэтым месцы завяршаюцца на нейкі час пісаныя весткі Абуха пра Зону. Сам жа аўтар апынуўся на мінулым тыдні ў гарадской псіхушцы Любагорска, дзе безупынна гаворыць штосць лекарам пра Зону, Агульна Абавязваючыя Прынцыпы, Замбара, „Гоні"... Магчыма, аздаравее і будзе працягваць свае ўспаміны.

# З гараскопа друідаў

**ЯЗМІН** *(1—14 мая, 3—11 лістапада.* Больш за 200 відаў гэтага хмызняку растуць у Паўднёва-Усходняй Еўропе, Паўночнай Афрыцы, Закаўказзі, Крыме, Паўднёвай Азіі, Кітаі, які і лічыцца радзімай язміну. Але некаторыя вучоныя называюць язмін чубушнікам і выводзяць яго з Паўднёвай Еўропы. Відаць, там і назіралі язмін друіды, а ён прывабны, асабліва ў маі, калі ўвесь абсыпаны гронкамі пахучых кветак.

Чалавек-язмін прыцягвае да сябе ўменнем размаўляць, менавіта ад яго чакаюць паляпшэння настрою. Ён рухавы, жывы, таварыскі і ўяўляецца ўсім ураўнаважаным, вясёлым і без праблемаў. І толькі блізкія людзі ведаюць, які ён уражлівы, як лёгка расчароўваецца. Наогул, язмін — вялікі песіміст, хаця гэта старанна хавае. Але недавер да людзей — проста развага, якая надае яго дзеянням стрыманасць і абачлівасць. Асцярожнасць язміну не пераростае ў падазронасць, таму ён добры дыпламат і ўмее ладзіць з людзьмі, умее ўбачыць іх дадатныя бакі, рысы характару. Ва ўласным доме язмін патрабуе незалежнасці, не любіць адчуваць сябе звязаным, не пераносіць абмежаванняў, абавязкі яго гнятуць. Пачуццё абавязку прымушае яго падпарадкавацца абставінам, але платай за гэта становіцца не найлепшы настрой язміну. Жыццё з ім не з лёгкіх, лепш складваюцца адносіны з дзецьмі, на якіх язмін ускладае вялікія надзеі.

*(працяг у наступным нумары)*





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# РЭПЛІКІ

* * *

— Неяк раз падпіўшы
Ён з сябе быў выйшаў,
Ды, як азірнуўся,
Ураз назад вярнуўся
І ў сабе схаваўся
І не адзываўся.

* * *

— Хочуць нас „дабрадзеі"
Прыгарнуць да грудзей,
Каб заціснуць нам рот —
Перакрыць кісларод!
Так яны ад душы
Хочуць нас прыдушыць!

* * *

— Гэта ўжо зусім не глупства,
Гэта проста самагубства —
Ад такога самалюбства
Блізка самаадналюбства!

**Станіслаў Валодзька**

# СЕНТЭНЦЫІ

Сусвет — гэта ноч
і запаленыя свечкі,
пры якіх жыццё грэе рукі.

* * *

Цёплае слова і цераз канверт грэе.

* * *

Уверх узнімі галаву —
і ўбачыш зямлю.

* * *

Паштовы голуб страціў пасаду,
бо не стрымаў тайны перапіскі.
Найсакавіцшыя ўрыўкі
з лістоў любоўных чытаў ґалубцы.

* * *

Рытм — марш сэрца.

**Барыс Руско**




Мал. Л. Разладава







Мал. А. Папова

# З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Ну, зусім ты ўжо здурэў! — крычыць маці на сына-п'яніцу. — Боты парваныя, кашуля дзіравая, а ўсе грошы прапіваеш! Лепш купіў бы што апранууцца ды абуцца!

— Ціха, маці. Гарэлка для мяне важнейшая, чым нейкі бот ці кашуля. П'ю яе, каб весялей мне было, і каб у вантробах заразы не было. А адзенне толькі для знешняга выгляду. А ці ёсць для каго мне апранацца, перад кім фарсіць...

* * *

Ішоў п'яны Мірык і рашыў наведаць свайго сябра Ваньку. Ванька якраз сек дровы, сякера выслізгнулася яму з далоні і параніла палец на назе.

— Ой, Ванечка, Ванечка, як мне цябе шкада! — загаласіў усхваляваны сябра. — Як жа табе страшна баліць! Узяў бы і я сякеру, і сабе нагу пакалечыў, так табе спачуваю!

* * *

— Гэта праўда, што ты хочаш ажаніцца з удавой Міляй? — запытаўся бацька сына.

— Праўда. Добрая кабета, яна мне вельмі падабаецца.

— Ды яна старэйшая ад цябе!

— Што значаць гады, калі чалавек чалавеку падабаецца і яго разумее!

— Ну... То ты скажы мне, якая кашуля лепшая — старая ці новая?

— Калі з добрага матэрыялу, то і старая добрая, — усміхнуўся сын.

* * *

Марэк, хоць жанаты дзесяць гадоў, заляцаўся да паненак. Адной дзяўчыне вельмі спадабаўся, і прыехала яна за ім у вёску К., паглядзець, як жыве яе каханы. Увайшла ў хату. Убачыла маладую жанчыну з двума падгадаванымі хлопчыкамі.

— Я прыехала ў госці да вашага Марка. Вы яго сястра?

— Не, Марэк — мой муж. Пакуль што ён на працы, але калі прыйдзе, паразмаўляеце.

Дзяўчына аблілася чырванню і выбегла з хаты.

* * *

— Што ты ведаеш аб зорках? — запытаўся настаўнік фізікі шасцікласніка Пецю.

— Столькі ў небе зор, цяжка палічыць! — заспяваў хлопец.

**Аўрора**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— У час маёй маладосці дзяўчаты былі вельмі скромныя, умелі чырванець, — гаворыць бацька да дачкі.

— А што ты такое ім гаварыў?

* * *

У судзе:

— Ці вы, абвінавачаны, прызнаеце сябе віноўным?

— Не!

— Ці ў вас ёсць алібі?

— Што такое?

— Алібі, гэта значыць, ці бачыў вас нехта, калі было ўчынена гэтае злачынства?

— На шчасце, не.

* * *

— Як на дрэсіроўшчыка дзікіх звяроў вы вельмі худы...

— Дзякуючы гэтаму я і магу быць дрэсіроўшчыкам: гэтыя шэльмы толькі чакаюць, каб я паправіўся.

* * *

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Ты, пэўна, шчаслівая, што выдала замуж свае дочкі?

— Незусім; дома яшчэ цёшча засталася.

* * *

— Што вы думаеце пра маю п'есу? — пытае пачынаючы драматург вопытнага крытыка.

— Раю вам змяніць заканчэнне. У апошняй сцэне герой не павінен вешацца, а толькі застрэліцца.

— Чаму?

— Калі раздасца выстрал, частка гледачоў прачнецца.

* * *

— Зося, што ты робіш, каб мець такія далікатныя рукі?

— Нічога.

* * *

Дырэктар заапарка заўважыў, што адзін слон кашляе і загадаў стаарожу даць хвораму жывёліне вядро цёплага віна. На другі дзень пытае стоража:

— Ці слон яшчэ кашляе?

— Ён не, але цяпер кашляюць усе апошнія сланы.

* * *

Два каты сядзяць у бары і п'юць гарэлку.

— Ці бачыш белыя мышкі? — пытае адзін другога.

— Яшчэ не.

— Дык давай піць хутчэй, бо не люблю, калі закуска спазняецца.

* * *

— Чаму вы ўкралі легкавы аўтамабіль?

— Бачыце, мой папсаваўся, а я не хацеў спазніцца на працу...

— А не маглі вы паехаць на аўтобусе?

— Мог, толькі ўкрасці аўтобус намнога цяжэй.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**




Даражэнькае Сэрцайка! Не ведаю сёння, чаму так здарылася. І таму прашу цябе, мо ты мне дапаможаш зразумець усю складанасць становішча, у якім я апынулася.

Быў у мяне хлопец, які кахаў мяне бязмежна. Тады мне здавалася, што і я яго кахала. Быў ён у любы момант гатовы ахвяраваць мне ўсё, што меў. Не лічыўся з сваёй асобай. На першым плане была я. Пра ўсё клапаціўся, аберагаў мяне ад розных нягод. Быў вельмі добрым чалавекам і адданым мне цэлым сэрцам.

Мы з ім хадзілі тры гады. Пачалося ўсё яшчэ ў апошнім класе ліцэя, а скончылася, калі мы ўжо працавалі. Мне яго апека здавалася мілай, але памаленьку я ўжо да яе прывыкла. Усё пачало мне здавацца звычайным, быццам інакш і быць не магло. Да добрага сапраўды чалавек прывыкае хутка!

Мы сустракаліся і вельмі часта бывалі разам, як і раней, але нешта пачало ў нас псавацца. Нашыя адносіны пачалі мне выдавацца занадта манатоннымі. Хацелася да людзей, а ён найахвотней замкнуў бы мяне ў клетку і трымаў толькі для сябе. Я пачала душыцца ў гэтай атмасферы. Яго мілыя адносіны да мяне не толькі пераcталі мне імпанаваць, а наадварот, раздражнялі.

І тут у нас на працы паявіўся новы малады чалавек. Усе дзяўчаты аж прыселі. Блакітныя вочы, кучаравыя валасы, высокі, статны. Кожная, як магла, старалася яму трапіць на вочы, хаця б сказаць „чэсць!". Адна зрабіла нават імпрэзу пасля работы і запрасіла яго. Ну, што ж, здавалася, што яму падабаліся ўсе дзяўчаты. Але было прыемна.

Калісьці мы выпадкова сустрэліся з ім у горадзе. Я была са сваім хлопцам. Мой новы знаёмы глянуў на мяне неяк інакш, з большым зацікаўленнем. І ўжо на працы на другі дзень не адступіўся ад мяне.

Нешта ўва мне згасла, а нешта ўспыхнула з незвычайнай сілай. Я не хацела, каб было прыкра майму хлопцу, але нічога не магла з сабой зрабіць. Новы хлопец засланіў мне свет. Яшчэ некалькі разоў, даруй мне Божа, я сустрэлася з першым у той час, калі была ўжо з другім. Было гэта ўсё без сэнсу, не дало мне ніякай сатысфакцыі. Думкамі я ўжо была вельмі далёка ад яго.

Я пачала жыць з новым хлопцам. У яго была свая кватэра, і я перайшла да яго. Бацькі не былі захоплены гэтым, бо як гэта так — без шлюбу?! Людзі задзяўбуць! А я стаяла пры сваім. Тыя нашы шалёныя ночы кампенсавалі мне ўсё.

Праз паўгода я зацяжарыла. Нават на адзін момант не прыйшла мне ў галаву думка, каб пазбыцца дзіцяці. А ён быў асцярожны. Гаварыў, што на дзіця яшчэ ёсць час, што яшчэ нам рана пра гэта думаць, а ўрэшце параіў, каб я вырашыла сама. А што тут было вырашаць, калі ўсё ўжо было вырашана...

У пятым месяцы маёй цяжарнасці ён пачаў даслоўна ўцякаць з дому. Дайшлі да мяне весткі, што не толькі выпівае ў бары піва з калегамі, але і часта бачаць яго з нейкай дзяўчынай. Я спрабавала папытацца тут і там (крыніцы былі верагодныя). Высветлілася, што да мяне ў яго ўжо было шмат дзяўчат, а цяпер сустракаецца з адной з іх. У мяне на сэрцы пахаладзела.

Не выпадала вяртацца да бацькоў, але жыццё маё сталася пеклам. Мой чалавек стаў вульгарным, не лічыўся са мною. Неяк дабыла я ў гэтым пекле да родаў. Думала, што калі народзіцца дзіця, асабліва хлопчык, дык ён зменіцца і вернуцца яго пачуцці да мяне. Я млела ад кахання, а ён быў халадзіна.

Нарадзіўся хлопчык, але гэта нічога не змяніла. Наадварот! Тады я сабрала манаткі, узяла дзіця і, калі ён быў на працы, выклікала таксоўку.

Бацькі прынялі мяне „з дабыткам" — як бацькі. Кахаюць майго сынка як свайго. А я ўсё думаю: чаму лёс так хацеў? У майго ж сына мог быць цудоўны бацька, які жыць не мог без яго маці. І гэта я ад яго адраклася...

**Тацяна**

Тацяна! Ты спадабалася другому, бо той ўбачыў, што падабалася іншаму. Ага, значыць, нешта ёсць у табе, значыць, варта адбіць цябе і паглядзець, якая ты. Бачыш, як хутка вылечыўся, калі стаў твар у твар з жыццём!

Ты была яму таксама бязмежна адданая, як той першы хлопец — табе. Ну, і што з гэтага выйшла?!

Кахай таго, хто цябе кахае, кажуць кітайцы і маюць, здаецца, рацыю.

**Сэрцайка**